КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 4 (325) ◂ 1 лютага ◂ 2013 г.
www.novychas.org

# Новы Час



**МІХАСЬ ЧАРНЯЎСКІ**

Стар. 6

**САЛІДАРНАСЦЬ БЕЗ МЕЖАЎ**

**Экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі Мікола Статкевіч узнагароджаны прэміяй Вілі Бранта «за асаблівую палітычную мужнасць». А сябар Статкевіча экс-прэм'ер Чэхіі, сацыял-дэмакрат Мілаш Зэман абраны прэзідэнтам.**

Стар. 4

**ТАНКІ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА**

**150-годдзе паўстання 1863–1864 гадоў не абышлі ўвагай польскія літаратары, якія працуюць у жанры альтэрнатыўнай гісторыі.**

Стар. 11

**ГОНАР, ПАТРЫЯТЫЗМ І ЛЮДСКАЯ ТРАГЕДЫЯ**

Стар. 14

ISSN 2218-2144





**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ЗБАЎЛЕННЕ АД БЕЛАРУСКАСЦІ**

Разважанні Ігара Мельнікава

▸ АД РЭДАКТАРА

## МАДЭРНІЗАЦЫЯ. МІСІЯ НЕВЫКАНАЛЬНАЯ

Сяргей ПУЛЬША

**Слова «мадэрнізацыя» вельмі спадабалася беларускаму правадыру. Зараз з ягонай падачы «мадэрнізуецца» ўсё, што можна, і нават тое, што нельга, але хочацца. Але якім чынам гэта зрабіць рэальна, ніхто не ведае.**





Шчыльная ўвага слову «мадэрнізацыя» была нададзена Аляксандрам Лукашэнкам пасля таго, як за правал гэтай мадэрнізацыі ён раскрытыкаваў дрэваапрацоўчую сферу. І пасля гэтага пачалося.

На адной з прэс-канферэнцый Лукашэнка паведаміў, што марудна ідзе мадэрнізацыя паветранай абароны Беларусі. Нядаўна сказаў, што наспела неабходнасць карэннай мадэрнізацыі не толькі эканомікі, але і навуковай сферы.

Але гэтая мадэрнізацыя выглядае дзіўна. «Мы не можам дазволіць сабе распыляць сродкі дзеля задавальнення чыста акадэмічнай цікаўнасці. Беларуская навука павінна быць «заточаная» пад патрэбы нашай суверэннай дзяржавы і стаць больш кампактнай па сваёй структуры», — заявіў Лукашэнка.

Тут Аляксандра Рыгоравіча падлавіў акадэмік Вайтовіч, узгадаўшы, што тое самае Лукашэнка казаў напачатку 2000-х гадоў, і з тае пары нічога зроблена не было. Гэта і не дзіўна: яшчэ тады прэзідэнту адмыслоўцы казалі, што аснова ўсяго — фундаментальная навука, а яна і палягае ў тым, каб задаволіць «чыста акадэмічную цікаўнасць» чалавека за дзяржаўныя грошы. Ужо з гэтага фундамента вырастаюць практычныя і новыя тэхналагічныя рашэнні, інавацыйныя вынаходніцтвы.

Літаральна днямі было заяўлена, што да 2015 года плануецца цалкам завяршыць мадэрнізацыю ўстаноў аховы здароўя.

У мінулым годзе Лукашэнка заяўляў, што ім дадзена даручэнне да канца года завяршыць усе арганізацыйныя працы па комплекснай мадэрнізацыі дзяржаўных прадпрыемстваў. Сёлета, па яго словах, распрацоўваецца план на 12–15 сур'ёзных праектаў мадэрнізацыі.

Але ж ці магчымая мадэрнізацыя ў Беларусі? Калі мадэрнізацыю разумець як замену састарэлага абсталявання вытворчасці на новае, то яна складаная, але мажлівая. Былі б грошы.

Лукашэнка спадзяецца на крэдыты і інвестараў. Што тычыцца крэдытаў, то пры цяперашніх адносінах з Захадам чакаць адтуль шчодрых крэдытных ліній не выпадае. Нават МВФ не дае грошай без структурных рэформаў. Калі чакаць інвестараў, то для гэтага павінен быць створаны спрыяльны бізнэс-клімат. Але ж пасля таго, як прэзідэнт «па сваім жаданні» фактычна нацыяналізаваў «Камунарку» і «Спартак», ні пра які прыход інвестараў марыць не даводзіцца.

Халера з ім, з Захадам. Можа, Масква нам дапаможа? Але такія планы выклікаюць больш смеху, чым сур'ёзных роздумаў. Па-першае, Масква зацікаўлена ў тым жа, што і Захад — у змене правілаў гульні і прыватызацыі беларускіх прадпрыемстваў, нават крэдыты Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭс абумоўлены пачаткам прыватызацыі. Да таго ж, як слушна кажа правадыр, Расія зацікаўлена ў банальнай скупцы прадпрыемстваў. Па-другое, як Расія можа мадэрнізаваць беларускія прадпрыемствы, калі яна не можа мадэрнізаваць нават свае?

Чаму Расія так нервова ставіцца да экспарту беларускіх нафтапрадуктаў з расійскай нафты? Ды проста таму, што сама не здолела вывесці свае нафтаперапрацоўчыя заводы на ўзровень беларускіх і рабіць свой якасны бензін. І з гэтай краіны мы марым атрымаць сучасныя тэхналогіі?

Магчыма, і можна было б грошы ад продажу адных прадпрыемстваў накіраваць на мадэрнізацыю іншых, але Лукашэнка з гэтым нязгодны. «Нават калі б мы прадалі на 2–3 мільярды долараў уласнасць, гэтыя грошы былі б пакладзены ў золатавалютныя рэзервы. Гэта нам не належаць грошы, і вам не належаць — гэта дзецям нашым належаць грошы. Таму яны павінны быць у золатавалютных рэзервах для падтрымання стабільнасці і незалежнасці нашай дзяржавы», — сказаў Лукашэнка.

У свеце ёсць адзін прыклад мадэрнізацыі «з апорай на ўласную моц». Гэта таварыш Іосіф Вісарыёнавіч Сталін, які, як кажуць ягоныя прыхільнікі, «прыняў Расію з сахой, а пакінуў з атамнай бомбай». Але ж гэтая мадэрнізацыя каштавала мільёны чалавечых жыццяў з ГУЛАГам, «шарашкамі» і Сусветнай вайной. Хто не лічыць вайну фактарам мадэрнізацыі, хай паглядзіць на Урал: уся тамтэйшая прамысловасць вырасла з эвакуяваных туды напачатку вайны ў тым ліку і беларускіх прадпрыемстваў.

Лаўры Іосіфа Вісарыёнавіча не даюць спакою Аляксандру Рыгоравічу. Беларускаму правадыру таксама хочацца дамагчыся звання «эфектыўнага менеджара». Вось і выходзіць сумнавядомы Дэкрэт прэзідэнта, які забараняе працоўным дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў звальняцца з працы на перыяд мадэрнізацыі. Але Беларусь, — не СССР. У Беларусі няма «жалезнай заслоны» з Захадам і мяжы з Расіяй. Беларусу ніхто не забароніць банальна кінуць працу і з'ехаць працаваць за мяжу. На «сталінскую мадэрнізацыю» тут не стае ані турмаў, ані тэрыторыі, ані насельніцтва.

Як вынік, для эканамічнай мадэрнізацыі патрэбная, найперш, лібералізацыя эканомікі, якая цягне за сабой лібералізацыю заканадаўства. Наданне большых свабод, хай і ў гаспадарчай дзейнасці, прыводзіць да большай самастойнасці ўласнікаў, што цягне за сабой і палітычныя пераўтварэнні. Украінскі Майдан быў магчымы толькі пры падтрымцы прадпрымальнікаў і бізнэсоўцаў, а «арабская вясна» пачалася з самаспалення «вольнага гандляра» Махамеда Буазізі ў Тунісе.

Таму сапраўдная мадэрнізацыя прыводзіць да страты ўлады. Беларуская ж ўлада, якая не здольная на «самастрачванне» і перадачу яе камусьці, проста вырачаная на правал любых мадэрнізацыйных працэсаў. Пра мадэрнізацыю можна толькі размаўляць, а не праводзіць яе. Такім чынам — місія невыканальная.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ФАТАГРАФАВАЦЦА НЕБЯСПЕЧНА

**Апошнім часам беларускія ўлады, асабліва мясцовыя, нервуе любы крок праваабаронцаў і апазіцыянераў. Хутка ім нельга будзе нават проста сабрацца больш за трох. Не тое што фатаграфавацца.**

29 студзеня штраф у 2,5 мільёны атрымаў наваполацкі актывіст Сяргей Малашонак. Гэта ўжо другі штраф, прысуджаны ў Наваполацкім гарадскім судзе мясцовым актывістам, якія, на ўзор гродзенскіх аднадумцаў, сфатаграфаваліся з партрэтамі Алеся Бяляцкага ў руках. Пасля таго, як фотаздымкі Яўгена Парчынскага і Сяргея Малашонка трапілі ў інтэрнэт, абодвух аштрафавалі за «несанкцыянаваную акцыю». Яўгена Парчынскага 24 студзеня суд аштрафаваў на 500 тысяч рублёў.

«За ўдзел у несанкцыянаванай акцыі мяне судзілі ўжо другі раз на працягу гэтага года. Першы штраф быў у кастрычніку за спробу вывесіць расцяжку «Свабоду палітвязням!» Тады мне прысудзілі 300 тысяч штрафу. Я буду абскарджваць гэтыя рашэнні, бо не згодны з тым, каб за фотаздымкі судзілі і штрафавалі. Мы нікога нікуды не заклікалі, у нас не было ні плакатаў, ні транспарантаў. Мы проста фатаграфаваліся», — кажа Сяргей Малашонак.

Нагадаем, першымі былі аштрафаваныя гродзенскія праваабаронцы Віктар Сазонаў, Раман Юргель і Уладзімір Хільмановіч. 5 студзеня суддзя Ленінскага раённага суда Віталь Ляцко асудзіў грамадскіх актывістаў да 15 базавых велічыняў кожнага за фотаздымак у інтэрнэце, на якім актывісты сфатаграфаваныя з партрэтамі Алеся Бяляцкага.

29 студзеня ў Гродзенскім абласным судзе былі разгледжаны скаргі праваабаронцаў. Суддзя абласнога суда Анатоль Заяц прадказальна ўзяў бок раённага суда і пакінуў пастанову без зменаў.

«Спадзявацца на іншае рашэнне абласнога суда было б наіўна. Суд гэтай інстанцыі чарговы раз выявіў карпаратыўную псеўдасалідарнасць і фактычна пацвердзіў чыста палітычны прысуд. Каб справа разглядалася выключна ў юрыдычнай плоскасці, то яе не было б зусім. А так — ніякіх доказаў, ніякіх матэрыялаў, што даказваюць нашу віну, шэраг працэсуальных парушэнняў — і такія неадэкватныя карныя вынікі», — сказаў Раман Юргель.

«Мы падавалі і будзем падаваць скаргі па гэтай справе не толькі таму, што нас асудзілі абсалютна несправядліва, але і таму, што створаны небяспечны прэцэдэнт, калі кожнага грамадзяніна можна судзіць па звычайных фотаздымках. Няпраўнасць судовай сістэмы набывае абсалютны характар, што надзвычай небяспечна для ўсяго грамадства», — падкрэсліў Уладзімір Хільмановіч.

А тым часам можна чакаць чарговай справы і чарговага абсурднага прысуду. 29 студзеня намеснік старшыні ПЦ «Вясна» Валянцін Стэфановіч, сябра Рады арганізацыі Уладзімір Лабковіч і юрыстка Наста Лойка сфатаграфаваліся з партрэтамі сваіх гродзенскіх калегаў — каб выказаць ім сваю салідарнасць. А ўладам — нагадаць, што, прыцягваючы да адказнасці за размяшчэнне фотаздымка ў інтэрнэце, яны дэманструюць пагарду да Канстытуцыі Беларусі і міжнародных стандартаў у галіне правоў чалавека, якія гарантуюць грамадзянам права на свабоду выказвання.

**Артыкул падрыхтаваны па інфармацыі сайта spring96.org**

СМІ

# АПРАЎДАННЕ ЗАТРЫМАННЯ

**ГА «БАЖ» атрымала адказ на свой запыт міністру ўнутраных спраў наконт затрымання журналістаў у Смалявічах.**

Як вынікае з паслання, па звароце журналісцкай арганізацыі Упраўленне ўнутраных спраў Мінаблвыканкама правяло праверку, «па выніках якой скарга на дзеянні супрацоўнікаў Смалявіцкага РАУС не знайшла свайго пацверджання».

Паводле ліста, журналістаў затрымалі з-за таго, што яны «мелі пры сабе буйнагабарытныя рэчы і адмовіліся прадставіць іх для дагляду».

Адказ падпісаў 28 студзеня намеснік начальніка міліцыі грамадскай бяспекі Упраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкама Віталь Казлоў.

Адметна, што ліст са Смалявіцкага РАУС, які атрымала адна з затрыманых, журналістка «Новага часу» Лола Бурыева, не зусім стасуецца з адказам МУС.

Супрацоўнікі раённага аддзела прыносяць прабачэнні за нязручнасці і пішуць, што з начальнікам аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі, які кіраваў затрыманнем, праведзена «індывідуальна-прафілактычная гутарка пра ветлівае і тактоўнае абыходжанне з грамадзянамі».

Нагадаем, што 24 снежня 2012 года супрацоўнікі Смалявіцкага РАУС на чале з начальнікам аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі А. М. Мартысюком затрымалі сябраў ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» Лолу Бурыеву, Вячаслава Пяшко, Сяргея Кручкова, Мікалая Петрушэнку і Сяргея Вазняка.

Журналісты збіраліся асвятляць сустрэчу дэпутата Ягора Лебядка з выбаршчыкамі ў мясцовым Доме культуры, але так на яе і не трапілі. Усіх іх адпусцілі ў той жа дзень, але паводзіны міліцыянтаў і характар пытанняў, якія задавалі нашым калегам, выходзілі далёка за межы «высвятлення асобаў». Журналісты вырашылі не пакідаць гэтага інцыдэнту без працягу.

Пры канцы снежня ГА «БАЖ» напісала афіцыйныя лісты дэпутату Лебядку і міністру ўнутраных спраў Ігару Шуневічу з заклікам разабрацца ў сітуацыі з затрыманнем калег.

**Паводле прэс-службы БАЖ**

ПАМЯЦЬ

# УШАНАВАННЕ АХВЯРАЎ СТАЛІНІЗМУ

**Марат ГАРАВЫ**

**29 студзеня каля 20 актывістаў грамадскай ініцыятывы «За ўратаванне мемарыялу «Курапаты» правялі ўшанаванне ахвяраў масавых палітычных рэпрэсій 1920–1950-х.**

У мерапрыемстве пад бел-чырвона-белым сцягам удзельнічалі сябры аргкамітэту па стварэнні руху салідарнасці «Разам» і Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ.

Прадстаўнікі грамадскасці агучылі чарговыя амаль 200 з 5772 вядомых імёнаў ахвяраў палітрэпрэсій 1920–1941-х гадоў, расстраляных ў Мінску і пазней рэабілітаваных. Першыя больш за 300 імёнаў ахвяр былі названыя ў Курапатах 29 кастрычніка 2012 года, далей спіс агучваўся падчас розных мерапрыемстваў у рамках правядзення Года памяці ахвяраў таталітарызму ў Беларусі, а поўны спіс будзе зачытаны ў гэтым годзе.

Удзельнікі ўшанавання ўсклалі кветкі, запалілі знічкі, хвілінай маўчання ўшанавалі памяць бязвінна палеглых людзей, праспявалі песні беларускага нацыянальнага адраджэння і правялі малебен.

Кіраўнік моладзевага крыла аргкамітэту па стварэнні руху салідарнасці «Разам» Ірына Шчасная заклікала беларусаў вывучаць сваё сапраўднае мінулае, у тым ліку гісторыю сталінскіх рэпрэсій, ба сапраўдная гісторыя нашмат мацнейшая за фальшывую, таму што яна шчырая і маральная.

Каардынатар кампаніі «Пакаянне» аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Валерыя Чарнаморцава заклікала моладзь далучацца да ўдзелу ў стварэнні віртуальнага музея камуністычных рэпрэсій на Беларусі, а таксама да шанавання і ўсебаковай падтрымкі былых вязняў ГУЛАГу сталага веку.

А каардынатар ініцыятывы «За ўратаванне мемарыялу «Курапаты» Ганна Шапуцька паведаміла, што 7 лютага а 12.00 ў сталічнай сядзібе Партыі БНФ адбудзецца круглы стол, прысвечаны справе грамадскага актывіста з Наваполацка Андрэя Гайдукова, абвінавачанага ў здрадзе Радзіме.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# БАРАЦЬБА ЗА БЕЛАРУСЬ

**Марат ГАРАВЫ**

**30 студзеня ў мінскай сядзібе ТБМ адбылася прэзентацыя выбраных прац доктара гістарычных навук, прафесара Анатоля Грыцкевіча.**

У 608-старонкавы ілюстраваны том, які выйшаў у серыі «Гісторыка-літаратурныя помнікі» «залатога» выдання «Беларускі кнігазбор» , увайшла манаграфія «Барацьба за Беларусь. 1917–1921» і даследаванні пра найбольш драматычныя і важныя падзеі з айчыннага мінулага.

Дарэчы, два артыкулы: пра гісторыю шляхты Беларусі і выбранцаў — пехацінцаў, якія служылі ў Слуцкай крэпасці — звязаныя з продкамі Грыцкевіча, які паходзіць з старадаўняга беларускага шляхецкага роду. «Самае цікавае, што ў сям'і ўвесь час замоўчвалася, што мы — шляхта. Бацька загінуў у 1941 годзе пад Масквой разам са сваім 321-м асобным інжынерным батальёнам. Мае сваякі з вёскі, што знаходзіцца ў чатырох кіламетрах ад Слуцку, у 1929 годзе пайшлі ў калгас. Але дзякуючы маім продкам, захаваліся арыгінальная шляхецкая грамата з подпісам караля і адмысловая пячатка роду. Мой дзед меў 17 гектараў зямлі, на якой працавалі шэсць сыноў і тры дачкі, прычым нікога не наймалі» , — адзначыў Анатоль Грыцкевіч.

Сустрэча з гісторыкам адбылася напярэдадні яго 84-га дня нараджэння. З чым спадара Анатоля і павіншавалі яго сябры і знаёмыя, што прыйшлі на прэзентацыю.

Рэдакцыя «Новага часу» далучаецца да гэтых віншаванняў і зычыць шаноўнаму Анатолю Пятровічу доўгіх гадоў жыцця і новых цікавых прац па гісторыі Бацькаўшчыны.

ВІЗІТ

# ЗША: СПАЧАТКУ ВЫЗВАЛЕННЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ

**З 27 па 29 студзеня ў Мінску знаходзілася дэлегацыя Дзярждэпартамента ЗША на чале з каардынатарам праграмы дапамогі ЗША краінам Еўропы і Еўразіі Дэніэлам Розэнблюмам.**

У ходзе візіту адбыліся сустрэчы ў міністэрствах замежных спраў, аховы здароўя, працы і сацыяльнай абароны. У апошні дзень Розэнблюм сустрэўся з 7-ю кіраўнікамі апазіцыйных грамадска-палітычных структур.

А менавіта: Ірынай Вештард (Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада)), Сяргеем Калякіным (Беларуская партыя левых «Справядлівы свет»), Анатолем Лябедзькам (Аб'яднаная грамадзянская партыя), Аляксандрам Мілінкевічам (рух «За Свабоду»), Уладзімірам Някляевым (грамадзянская кампанія «Гавары праўду!»), Віталем Рымашэўскім (аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя») і Аляксеем Янукевічам (Партыя БНФ).

«Сустрэча доўжылася дзве з паловай гадзіны. Яна, як сказаў Розэнблюм, была на дэсерт», — паведаміў БелаПАН Анатоль Лябедзька. Паводле слоў палітыка, абмяркоўвалася сітуацыя ў Беларусі і перспектывы яе развіцця. Сярод канкрэтных тэм — палітзняволеныя, гучныя знікненні, свабодныя выбары, дыялог з уладамі.

Як заявіў Лябедзька, першым пунктам парадку дня на беларускім напрамку для ЗША застаецца вызваленне палітзняволеных, за якім непарыўна ідуць выкананне Мінскам правоў чалавека і правядзенне свабодных выбараў.

«Я і Рымашэўскі зрабілі акцэнт на важнасці правядзення свабодных выбараў. Калі мы гэтага не даб'ёмся, то пасля чарговай выбарчай кампаніі зноў памяняюцца толькі прозвішчы тых, хто сядзіць у СІЗА, і ўсё пачнецца спачатку», — сказаў палітык.

«Візіт Розэнблюма сведчыць аб цікавасці ЗША да Беларусі. Гэта добра, калі сітуацыяй у нас цікавіцца чыноўнік такога ўзроўню. Ёсць магчымасць наўпрост задаваць пытанні і выкладаць сваю пазіцыю», — адзначыў лідар АГП.

**Паводле БелаПАН**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# БЕЛАРУСЬ ЯК ПОЛЕ ЦУДАЎ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Колькі грошай у беларуса не забірай, а яны ў яго ўсё роўна ёсць. Гэта парадокс, але гэта факт. Дзяржава любымі сродкамі абдзірае насельніцтва, а гэтае насельніцтва не толькі плаціць за ўсё, але яшчэ і пазычае грошыкі той самай дзяржаве! Неверагодны аптымізм у беларусаў.**



Спачатку пра абдзіралаўку. З пачатку 2013-га года я ўжо стаміўся пісаць пра тое, што падаражэла. Тыдня не мінае, каб нешта не падаражэла, і збольшага, вядома, даражэе неабходнае. Тое, ад чаго адмовіцца нельга. Вось і зараз вымушаны зазначыць — хутка падаражэе грамадскі транспарт. 30 снежня намеснік старшыні Мінгарвыканкама Жанна Бірыч паведаміла журналістам, што тарыфы на праезд у грамадскім транспарце Мінска ў І квартале бягучага года павялічацца на 17,5%. То бок, да 2000 рублёў за адну паездку.

Праўда, з якой менавіта даты падаражэе праезд, Бірыч не паведаміла. Але ў нас традыцыя такая — надоўга не адкладваць, тым больш, што адзін з трох месяцаў першага кварталу ўжо скончыўся. Ёсць і другая традыцыя — услед за Мінскам праезд даражэе і ў абласных і раённых цэнтрах краіны. Таму варта чакаць у хуткім часе падаражання праезду па ўсёй Беларусі.

З 1 лютага ў краіне не толькі павялічваюцца тарыфы, але і ўводзіцца дыферэнцыяваная аплата паслуг газа-і электразабеспячэння. Фішка гэтай навацыі ў тым, што плата за спажыванне газу і электрычнасці зараз не будзе залежаць ад колькасці зарэгістраваных у кватэры ці доме грамадзян. Аплата будзе налічвацца ў залежнасці ад аб'ёмаў спажывання рэсурсаў.

То бок, калі ў кватэры прапісаны адзін чалавек, а насамрэч там офіс з дзясяткам супрацоўнікаў, якія «спальваюць» 400 кВт/гадзінаў, плаціць давядзецца напоўніцу.

Безумоўна, цікава, што ўрад лічыць, што «для большай часткі спажыўцоў паслуг электра-і газазабеспячэння захаваецца дзеючая сістэма аплаты». Але тое, што думае наш урад, настолькі не супадае з ягонымі дзеяннямі, што пра гэта казаць нават смешна.

Пры гэтым беларусам часткова кампенсуюць гэтыя выдаткі. 29 студзеня пастановай Савета міністраў у Беларусі зацверджаны новы бюджэт пражыткавага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва і па асноўных сацыяльна-дэмаграфічных групах. Перыяд дзеяння гэтых сацыяльных нарматываў — з 1 лютага па 30 красавіка 2013 года.

Бюджэт пражыткавага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва з лютага складзе 924 тыс. 150 беларускіх рублёў — 107,5 долараў. Новы БПМ павысіўся на 5%, бо раней складаў 880 тыс. 30 рублёў.

Для працаздольнага насельніцтва БПМ з лютага ўстаноўлены ў памеры 1 млн. 14 тыс. 180 рублёў, для пенсіянераў — 763 800, для дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў — 795 760, для дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў — 973 410, для дзяцей ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў — 1 млн. 41 тыс. 240 рублёў, для дзяцей-студэнтаў — 937 тыс. 770 рублёў.

Паколькі новы БПМ павысіўся на 5%, адпаведна з лютага павялічваюцца памеры працоўных мінімальных і сацыяльных пенсій, а таксама надбаўкі і павышэнні, устаноўленыя да пенсій асобных катэгорый пенсіянераў. На такую ж велічыню вырастуць памеры некаторых відаў дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей.

І не трэба казаць, што беларусам не дапамаглі, альбо што яны бедныя. Бедныя-бедныя, але як яны дапамагаюць сваёй небагатай дзяржаве! Фактычна за месяц грамадзяне краіны скупілі амаль увесь аб'ём першых двух выпускаў валютных аблігацый Мінфіна Беларусі з агульным аб'ёмам эмісіі 50 млн. долараў ЗША. Па звестках ведамства ў перыяд з 20 снежня 2012 года па 28 студзеня 2013 года насельніцтву прададзена аблігацый на 45,3 млн. долараў, што складае 90,6% ад аб'ёму эмісіі. Пры гэтым павышаным попытам карыстаюцца аблігацыі з наміналам 1000 долараў ЗША, а не больш даступныя паперы з наміналам у 200 долараў, паведамілі ў Мінфіне.

На продаж папер пайшло крыху больш за месяц, у той час як тэрмін размяшчэння (то бок тэрмін, за які іх планавалася прадаць поўнасцю) складае паўгода. Да таго ж, датэрміновае пагашэнне аблігацый не прадугледжана заканадаўствам.

У прынцыпе, тое, што беларусы з вялікай ахвотай панеслі свае грошыкі дзяржаве, можна растлумачыць прыбытковасцю ў 7% гадавых, што вышэй за працэнтныя стаўкі па валютных дэпазітах у банках, і досыць камфортным тэрмінам «укладу» — 1 год. Аднак эксперты не сумняваюцца, што трэці выпуск валютных аблігацый, які запускаецца Мінфінам у бліжэйшы час, з наміналам у 1000 долараў і тэрмінам звароту 2 гады, будзе карыстацца не меншым поспехам з боку насельніцтва.

Патлумачыць падобны феномен можна толькі тым, што беларусы — маладая нацыя. Няшмат у каго ў кубышках валяюцца падобныя аблігацыі СССР, якія так ніколі і не былі пагашаныя. Да таго ж, палова насельніцтва краіны да гэтага часу перакананая ў тым, што дзяржава гарантуе вяртанне толькі ўкладаў «Беларусбанка». Застаецца нагадаць, што выручаная ад продажу валютных бондаў Мінфіна валюта аўтаматычна залічваецца ў ЗВР Нацбанка РБ.

З іншага боку, сапраўды, лепш здаць грошыкі дзяржаве, чым, прыкладам, набыць аўто і, «абмыўшы» яго, адразу ж яго пазбавіцца. Старшыня Вярхоўнага суда Беларусі Валянцін Сукала выказаўся за ўкараненне заканадаўчай ініцыятывы аб канфіскацыі аўтамабіляў у п'яных кіроўцаў. Паводле яго слоў, Вярхоўны Суд падтрымлівае гэтую меру і бярэ ўдзел у падрыхтоўцы гэтай прапановы. Валянцін Сукала заявіў, што цяперашніх пакаранняў для злосных парушальнікаў недастаткова.

Сукала падтрымаў такую ініцыятыву, нягледзячы на тое, што сам разумее, колькі праблем зваліцца на галаву ягонага ведамства, то бок судоў. Ён сам адзначае, што п'яныя кіроўцы ў 70% выпадкаў кіруюць чужымі машынамі, а гэта, у сваю чаргу, ускладніць пытанне аб канфіскацыі аўтамабіляў.

На яго думку, асноўныя праўныя спрэчкі і канфлікты будуць звязаны з усталяваннем абставінаў, як нецвярозы чалавек апынуўся за рулём, і хто перадаў яму кіраванне. «Сітуацыі будуць няпростыя», — мяркуе кіраўнік Вярхоўнага суда.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ВІКТОРЫЯ АЗАРАНКА



Перамога Вікторыі Азаранкі на адкрытым чэмпіянаце Аўстраліі выклікала неадназначную рэакцыю ў заўзятараў. Так, журналіст «Радыё Свабода» Віталь Цыганкоў апублікаваў тэкст пад назваю «Ці абавязаны я ганарыцца Азаранкай?» У ім гаворыцца, што дыскусія наконт палітычнай пазіцыі, чалавечых і маральных поглядаў спартоўца — нармальная з'ява.

«Калі вам не падабаецца палітык ці дзеяч культуры, які ўваходзіць у групу падтрымкі Лукашэнкі, то чым адрозніваецца кіраўнік футбольнага клуба ў той самай ролі? Калі спартоўцы такія ж самыя людзі як іншыя, то давайце ставіцца да палітычных дзеянняў і заяваў прэзідэнта БАТЭ Капскага гэтак сама, як да Рубінава ці любога іншага праўладнага палітыка. ... Ці не здаецца, што тым самым вы прыніжаеце спартоўцаў, загадзя ставіце іх у пазіцыю чалавека другога гатунку, маўляў, «ён жа дурань, яму ўсё можна»?», — піша Віталь Цыганкоў.

Журналіст НЧ Генадзь Кеснер трымаецца іншага погляду. «Дзве перамогі ў Аўстраліі. На адкрытым чэмпіянаце гэтай краіны. Захаванне звання першай ракеткі Свету, хоць на пятکі наступала сама Сірэна Уільямс. Што можа быць лепш для Вікі і для яе прыхільнікаў? Бадай што нічога. Як нічога не застаецца зайздроснікам і нядобразычліўцам беларускай тэніснай зоркі, якой мы па праве ганарымся».

### ПАВЕЛ ДАНЭЙКА



Адміністрацыйны дырэктар Беларускага эканамічнага даследча-адукацыйнага цэнтра (BEROC) Павел Данэйка ў інтэрв'ю парталу tut.by ацаніў прагнозы ўрада наконт росту беларускай эканомікі, а таксама напрарочыў магчымую другую хвалю дэвальвацыі.

Паводле ацэнак Данэйкі, беларускай стабільнасці пагражаюць скачкі коштаў на вуглярodную сыравіну на міжнародных рынках. «Сёння аналітыкі прадказваюць падзенне цэн у энергетычнай галіне. Нафтаздабыўная галіна развіваецца цыклічна. Па прагнозах аналітыкаў, Канада і ЗША хутка стануць буйнымі экспарцёрамі нафты. Гэта прывядзе да сур'ёзнага падзення коштаў на энерганосьбіты. Гэты працэс ужо пачаўся дзякуючы сланцавай рэвалюцыі ў ЗША. Гэта азначае, што ў сярэднетэрміновай перспектыве ў Расіі будзе даволі складаная эканамічная сітуацыя. Для Беларусі гэта сур'ёзны выклік, таму што Расія з'яўляецца нашым асноўным рынкам збыту. Акрамя гэтага, паўстане пытанне аб магчымасцях далейшага льгатавання беларускай эканомікі з боку Расіі. Цяпер Беларусь датуецца расійскім бокам на суму каля 4 млрд. долараў у год. Да таго ж не варта забываць, што ў гандлёвым балансе Беларусі значная частка валютнай выручкі паступае ад гандлю нафтапрадуктамі. Зніжэнне кошту на іх прывядзе да скарачэння гэтага патоку».

Не выключае эксперт і новай хвалі дэвальвацыі ў краіне.

### АЛЕГ ГАЙДУКЕВІЧ



Ліберальна-дэмакратычная партыя прадставіла новую эканамічную праграму. Па словах намесніка старшыні ЛДП Алега Гайдукевіча (яго бацька Сяргей Гайдукевіч узначальвае партыю), у працы над ёй удзельнічалі вядомыя эканамісты, выкладчыкі, якія маюць навуковыя ступені.

Адну з асноўных праблем беларускай эканомікі Гайдукевіч бачыць у нізкім узроўні даверу паміж уладамі і бізнесам, без чаго немагчымае развіццё краіны. У сваёй эканамічнай праграме ЛДП прапануе — радыкальна знізіць падатковую нагрузку і спрасціць падатковую справаздачнасць; умацаваць бюджэтную дысцыпліну, правесці рэвізію бюджэтных і пазабюджэтных фондаў; пры правядзенні прыватызацыі «не пагубляць прадпрыемствы, якія забяспечваюць суверэнітэт», такія як «Беларуськалій», але ў той жа час і «не баяцца прыватызацыі прадпрыемстваў, праца якіх будзе больш паспяховая з прыходам прыватнага капіталу».

Гайдукевіч паведаміў, што ЛДП не адмаўляецца ад ідэі пераходу на адзіную валюту ў рамках Адзінай эканамічнай прасторы. «Мы падтрымліваем удзел Беларусі ў эканамічных інтэграцыйных утварэннях з Расіяй. Гэта не пярэчыць ідэі ўмацавання суверэнітэту, бо садзейнічае ўмацаванню эканомікі. З увядзеннем еўра ў Еўрасаюзе ніхто не страціў суверэнітэт», — цытуе намесніка старшыні ЛДП БелаПАН.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# САЛІДАРНАСЦЬ БЕЗ МЕЖАЎ

Вольга ХВОІН

**Экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі Мікола Статкевіч узнагароджаны прэміяй Вілі Бранта «за асаблівую палітычную мужнасць». А сябар Статкевіча экс-прэм'ер Чэхіі, сацыял-дэмакрат Мілаш Зэман абраны прэзідэнтам.**



Мілаш Земан (злева) і Мікалай Статкевіч (справа) 2002 год. Фота Алеся Станкевіча

Мікалай Статкевіч цяпер адбывае пакаранне ў закрытай турме № 1 у Магілёве. Ад яго імя прэмію ў Берліне атрымалі жонка Марына Адамовіч і дачка Кацярына Статкевіч. Марына Адамовіч зачытала прывітальныя словы ад імя Мікалая Статкевіча, з якімі ён звярнуўся да прысутных з-за кратаў.

Перад уручэннем прэміі з прамовай выступіў старшыня журы, прафесар Эган Бар, на працягу многіх гадоў блізкі сябар і паплечнік Вілі Бранта. Ён, у прыватнасці, сказаў: «Мікалай Статкевіч быў кандыдатам у прэзідэнты на выбарах, якія не былі ні свабоднымі, ні справядлівымі... Ён ведаў, што кідае выклік аўтарытарнаму рэжыму. Яго адзіным «злачынствам» была яго прыхільнасць дэмакратычным выбарам. Прэмія, якая ўручаецца сёння, носіць імя Вілі Бранта. Яму належыць выказванне: «Дзе свабода не абароненая своечасова, аднавіць яе можна толькі цаной вялікіх ахвяр». Слова «дэмакратыя» мае для нас магічны сэнс. Дэмакратыя з'яўляецца душой нашай партыі. Мы гаворым: няхай Мікалай Статкевіч і іншыя палітычныя зняволеныя нарэшце будуць вызвалены», — цытуе Бара сайт statkevich.org.

«Гэта было адно з самых моцных маіх уражанняў за апошнія два гады, менавіта ў частцы салідарнасці з палітвязнямі, — распавядае Марына Адамовіч. — Я не чакала такой рэакцыі людзей на словы Міколы — калі тэкст пераклалі, і ўся зала ўстала, гэта былі авацыі беларускаму палітыку! Там прысутнічалі ўплывовыя еўрапейскія палітыкі, і вельмі важна, што немцы прадэманстравалі сваю неабыякавасць, тое, што сітуацыя ў Беларусі ім блізкая і не чужая».

«Я разумею, што гэта нервуе і раздражняе зламыснікаў, але з іншага боку, гэта робіць немагчымым тварыць непрыглядныя справы. І хачу падкрэсліць, што ўвага сацыял-дэмакратаў з Еўропы, іх візіт у Беларусь сапраўды вельмі многа каштуюць як праява салідарнасці, увагі, неабыякавасці», — адзначае Марына Адамовіч. Яна адмовілася каментаваць апошнія заявы Лукашэнкі наконт далейшага лёсу Міколы Статкевіча, бо «гэты чалавек не заслугоўвае такой увагі».

На цырымоніі ўручэння прэміі ў Willy-Brandt House прысутнічала больш за 600 чалавек. Сярод гасцей былі вядомыя нямецкія і еўрапейскія палітыкі, члены ўрада, бундэстага і Еўрапарламента, у тым ліку Герхард Шродэр, Пер Штайнбрук, Франц Цёнэс, былыя і цяперашнія кіраўнікі СДПГ (SPD).

Другая пазітыўная навіна для сацыял-дэмакратаў прыйшла з Чэхіі: прэзідэнтам гэтай дзяржавы абраны экс-прэм'ер, сацыял-дэмакрат Мілаш Зэман. Чэшскі палітык асабіста знаёмы з Мікалаем Статкевічам і нават знаходзіцца ў добрых адносінах з беларускім палітвязнем. Пазнаёміліся Зэман і Статкевіч яшчэ ў красавіку 2002 года падчас візіту Зэмана ў Мінск у складзе дэлегацыі Сацыялістычнага інтэрнацыяналу.

Займаючы на той час пасаду прэм'ер-міністра Чэхіі Мілаш Зэман аднačасова з'яўляўся старшынёй Камітэту ў справах міру, бяспекі і правоў чалавека Сацыялістычнага інтэрнацыяналу. Менавіта ў гэтай якасці ён уваходзіў у склад дэлегацыі поруч з тагачасным Генеральным сакратаром Сацінтэрна Луісам Аялай. Візіт меў на мэце падтрымку дэмакратычных сіл у Беларусі, павінен быў садзейнічаць стварэнню міжнароднай камісіі па расследаванні справы зніклых палітыкаў, паспрыяць дыялогу паміж апазіцыяй і ўрадам.

Як адзначыў тады па выніках візіту ў інтэрв'ю радыё «Свабода» Мілаш Зэман, беларускае пасольства ў Празе шэсць разоў спрабавала арганізаваць ягоную сустрэчу з Аляксандрам Лукашэнкам, і шэсць разоў Земан адмаўляў, зазначаючы, што гатовы сустракацца толькі ў складзе ўсёй дэлегацыі ўключна з лідарам «Народнай Грамады» Міколам Статкевічам. Беларускі афіцыйны бок на гэта не пайшоў.

Адзін з актыўных сябраў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Алесь Станкевіч згадвае, што візіт Мілаша Зэмана ў Беларусь у 2002 годзе шырока асвятляўся ў СМІ. «Наша партыя ў той час была прынятая асацыяваным членам Сацінтэрну. І той візіт на пачатку 2000-х быў акурат у падтрымку сацыял-дэмакратаў Беларусі. І беларускі бок браў удзел у многіх імпрэзах па гэтай лініі. Луіс Аяла два гады таму зноў прыязджаў у Беларусь, але ўжо менавіта ў падтрымку Міколы Статкевіча», — гаворыць Алесь Станкевіч. Паводле яго слоў, пасля абрання Зэмана на высокую пасаду прэзідэнта Чэхіі, былы намеснік старшыні БСДП Арастовіч даслаў віншаванне чэшскаму палітыку ад імя аргкамітэта па стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (так гучыць цяпер юрыдычны статус партыі).

Алесь Станкевіч адзначае, што сацыял-дэмакраты прысутнічаюць у розных плынях еўрапейскай палітыкі. І ў гэтым Беларусі ёсць чаму павучыцца, але «нам моцна бракуе палітычнага досведу».

Ацэньваючы магчымы ўплыў на знешнюю палітыку Беларусі новаабранага чэшскага прэзідэнта Станкевіч параіў: «Усіх у Беларусі цікавіць хутка вынік, каб атрымаць адразу і ўсё. Любяць пакрытыкаваць і дзеянні, і колькасць прыхільнікаў. Але я кажу, што як ты станеш побач, то нас будзе больш. Таму пакуль мы не пачнём пачувацца больш адказнымі за тое, што адбываецца вакол нас, да таго часу словы па знешні ўплыў нашых хаўруснікаў, партнёраў будуць збольшага словамі».

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# САМАЦЭНЗУРА — АБЯРЭГ ДЛЯ ВЫДАЎЦА

Вольга ХВОІН

**Адсутнасць у дзяржаве дзейсных праўных механізмаў прымушае тых, хто займаецца выдавецкай дзейнасцю і кніжным распаўсюдам, заўсёды памятаць пра самацэнзуру.**

REPORTERS WITHOUT BORDERS FOR PRESS FREEDOM

«Не лезь без патрэбы на ражон», — раяць дасведчаныя ў справе пашырэння ведаў і асветы людзі.

Тым не менш інстынкт самазахавання і асцярожнасць не заўсёды ратуюць: канфлікты вакол недзяржаўных СМІ, выдавецтваў ды кніжных распаўсюднікаў узнікаюць рэгулярна. Прадказаць рэакцыю дзяржаўных службоўцаў ды і самой дзяржаўнай машыны на слова бывае цяжка.

Свежая і пакуль незавершаная гісторыя з інтэлектуальным часопісам «Arche». Бяскрыўдная прэзентацыя выдання ў Гродне абярнулася канфіскацыямі, праверкамі Дэпартамента фінансавых расследаванняў, вымушанай эміграцыяй аднаго з ідэйных стваральнікаў выдання Валерыя Булгакава. Калектыў «Arche» цяпер робіць магчымыя захады, каб уратаваць выданне, у тым ліку пададзеныя дакументы на перарэгістрацыю ў Мініінфармацыі. Але ад прагнозаў, як павернецца справа, прадстаўнікі «Arche» адмаўляюцца.

Валер Булгакаў — вядомы беларускі інтэлектуал, аўтар шэрагу кніг, у тым ліку працы «Гісторыя беларускага нацыяналізму». Ён кандыдат філасофскіх навук, ад 1998 года з'яўляўся рэдактарам «Arche». Паколькі Булгакаў цяпер вымушаны знаходзіцца па-за межамі Беларусі, выконвае абавязкі галоўнага рэдактара часопіса гісторык Алесь Пашкевіч.

Размаўляем з Пашкевічам пра высакародную справу кнігавыдаўца, і падобна на тое, што цяпер у краіне гэта справа не надта ўдзячная. «У нашай краіне кожны выдавец мусіць азірацца і памятаць, што яго праца аднойчы можа закрануць нечыя інтарэсы. Кожны выдавец гэта трымае на ўвазе, нават калі не гаворыць услых. Таму любы вам параіць у нашых умовах, калі праўнай дзяржавы няма, і скардзіцца не будзе каму, не лезці без патрэбы на ражон».

Чые інтарэсы гэтым разам закрануў «Arche»? Гісторык Захар Шыбека з нагоды пераследу выдання піша, што гэта ёсць адлюстраванне барацьбы двух праектаў — якой быць Беларусі. «Інтэлектуалы, згрупаваныя ў недзяржаўныя грамадскія структуры, прэзентуюць Беларусь еўрапейскую, у той час як кіраўнік дзяржавы і ўся яго світа бачаць Беларусь еўразійскай, — адзначае Захар Шыбека. — Еўрапейскую плынь улады ўсімі сіламі стрымліваюць. Яе не вынішчаюць, праўда, як пры Сталіне, аднак жорстка абмяжоўваюць пэўнымі рамкамі, каб выкарыстоўваць у палітычнай гульні з Захадам. Як толькі еўрапейская арыентацыя пачынае набіраць моц і небяспечна ўздзейнічаць на грамадства — пачынаюцца рэпрэсіі».

Дзяржаўная машына пільна адсочвае і змест, і папулярнасць альтэрнатыўных крыніц інфармацыі.

«Літаратура, у якой чытачам прапануецца альтэрнатыўны погляд на гісторыю акупацыі Беларусі ў гады вайны. ...У кожнай з гэтых кніг, заключылі эксперты, сумнеўная трактоўка гісторыі Беларусі ў гады фашысцкай акупацыі. ...Літаратура, якая кепска пахне, утрымлівае свастыку, а таксама карыкатуры, якія, па словах спецыялістаў, далёкія ад рэальнасці», — гэта вытрымкі з рэпартажу па беларускім тэлебачанні, акурат прысвечанага «Arche» і сэнсаваму напаўненню часопіса.

Адзначым, што метады барацьбы з іншадумствам улады абіраюць такім чынам, каб не абазнаный у тонкасцях справы аўдыторыі можна было ўсё прадставіць як справядлівую кару за ўчыненае злачынства. Палітычным апанентам «шыюць» крымінал, выстаўляюць іх ледзьве не рэцыдывістамі, на праваабаронцах, журналістах, выдаўцах абкатваюць эканамічныя артыкулы. Фінансавая тэма ўвогуле ўрадлівая як каго хочацца прадставіць ворагам грамадства.

Так, летась распаўсюднік кніг Алесь Яўдаха быў асуджаны на год «хатняй хіміі» і 57 млн. рублёў штрафу. Алеся, які займаўся перасылкай беларускамоўнай літаратуры, абвінавацілі ў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці.

Цяпер Алесь Яўдаха працуе тавараздаўцам у недзяржаўнай кнігарні «Логвінаў». Паводле яго слоў, каб падступіцца да выдавецкай справы ў Беларусі і непасрэдна ёй займацца, трэба не мець ілюзій наконт хуткіх грошай ды памятаць, што «закон што дышла».

Алесь Яўдаха нагадвае, адміністрацыйная працэдура дазваляе лёгка адсеяць ахвочых да кнігавыдання яшчэ на стадыі атрымання дазволу: трэба здаць адпаведныя экзамены ў Мініінфармацыі, мець стаж працы ў выдавецкай дзейнасці.

«Наступны крок — наяўнасць грошай. Трэба ці мець свае грошы, ці нейкія знешнія крыніцы фінансавання, напрыклад, інвестараў, мецэнатаў. У нас не надта працуюць рынкавыя механізмы, ёсць вялікі перакос паміж затратамі на выданне літаратуры і гатоўнасцю пакупнікоў аддаць пэўную суму на кнігі. Дык вось з камерцыйнага боку гэтая справа ледзьве не мёртвая, — распавядае Алесь. — Афіцыйныя выдавецтвы часам пішуць на кнізе, што выдадзеная пры падтрымцы дзяржавы, натуральна, цана такога выдання будзе ў разы меншай за рынкавую. Але праблема ў тым, што дзяржава датуе прахадныя кнігі, а сапраўды вартая літаратура выходзіць па рэальным рынкавым кошце, які непад'ёмны для людзей».

Беларускамоўная літаратура выходзіць звычайна невялікімі накладамі, добрыя выданні хутка раскупляюць, а буйныя сталічныя кнігарні неахвотна супрацоўнічаюць з малымі выдавецтвамі. «У іх ёсць свая палітыка наконт падбору асартыменту. І кожны разумее, што цяпер часопіс АРХЭ і кнігі, якія выдаваліся творчым калектывам, у цяперашніх умовах ніколі не патрапяць на паліцы цэнтральных кнігарняў». «А ўвогуле, у працы любога выдаўца, распаўсюдніка кніг прысутнічае момант самацэнзуры. Дзяржава мае мноства сродкаў, каб прымусіць працаваць паводле яе правілаў», — рэзюмуе Алесь Яўдаха.

**Матэрыял падрыхтаваны ў супрацоўніцтве з Index on Censorship (Індэкс цэнзуры), indexoncensorship.org**

ІНФЛЯЦЫЯ

# РЭКОРД ПА МІНУСЕ

Сяргей ПУЛЬША

**Цэны за студзень пабілі ўсе рэкорды. Пры вельмі аптымістычным намеры нашага ўрада стрымаць планку росту цэнаў на ўзроўні 10–12% за 2013 год, толькі за першы месяц кошты, па звестках Белстата, выраслі на 2,4%. А наперадзе яшчэ 11 месяцаў.**




Найбольшы прырост цэн з пачатку месяца, як паведамілі ў Белстаце, адзначаны на тытунёвыя вырабы (26,1%) і гарэлку (4,6%). Падаражэў бензін (5,2%) і паслугі сувязі (20%), чыгуначны транспарт рэгіянальнага ўзроўню экономкласа (16,7%) і міжнародных зносін (7,2%), санаторна-аздараўленчыя паслугі (8,4%).

Але асабліва непакоіць рост цэнаў на тавары сельскай гаспадаркі. Здаецца, садавіна-гародніна збіралася восенню, і даражэць не павінна. Але гэтак не атрымалася. Бурак падаражэў на 15,8%, капуста белакачанная свежая — на 12,6%, морква — на 11,7%, памідоры свежыя — на 11,6%, агуркі свежыя — на 10,4%, цыбуля — на 7,4%. Ну і гэтак далей.

Інфляцыя за студзень 2012 года складала 1,9%, а за студзень 2011-га — 1,4%. Прычым, гэтыя месяцы былі «перадкрызісным» (2011) і «паслякрызісным» (2012).

Эканамісты, дарэчы, не бачаць у гэтым нічога дзіўнага. Па меркаванні Антона Болтачкі, мы расплачваемся за тое, што выканалі прагнозныя паказчыкі інфляцыі за 2012 год. Па ягоных словах, калі паглядзець на тавары, цэны на якія раслі хутчэй за ўсё, то выявіцца, што гэта тавары і паслугі, цэны на якія рэгулююцца дзяржавай. Таму збольшага можна сцвярджаць, што чыноўнікі адмыслова «перанеслі» інфляцыю на пачатак года, каб абавязкова выйсці на прагнозныя паказчыкі інфляцыі ў 2012 годзе. Гэта трэба было зрабіць з «псіхалагічнага пункту гледжання», бо ва ўлады і так быў правалены асноўны паказчык — паказчык па росце валавога ўнутранага прадукту. Правaліць яшчэ адзін з найважнейшых паказчыкаў было б зусім глупствам. Такім чынам, студзень чакала «адкладзеная» інфляцыя з лістапада-снежня 2012 года.

Кіраўнік аналітычнага цэнтра «Стратэгія», эканаміст Леанід Заіка называе гэтую інфляцыю яшчэ і «інфляцыяй попыту». З ягоных словаў, беларусы вельмі аптымістычна ўспрынялі рост заробкаў у лістападзе-снежні 2012 года. І кінуліся пад Новы год набываць ежу, рэчы, падарункі. Таму, зразумела, што «навагодняе застолле» ў немалой ступені выклікала падаражанне прадуктаў. «Павялічыўся попыт — папаўзлі ўверх кошты, — пайшла ўгару інфляцыя», — кажа Заіка. Хаця ён і не робіць з лічбы 2,4% вялікай трагедыі. На яго думку, такую інфляцыю «у межах двух працэнтаў» невядома, як падлічылі».

Але што рабіць ураду далей? Як Болтачка, так і Заіка сумняваюцца ў тым, што ў 2013 годзе можна будзе ўтрымаць інфляцыю на ўзроўні запланаваных паказчыкаў. Па-першае, ужо зараз запланавана павышэнне коштаў на некаторыя тавары і паслугі ЖКГ. Па-другое, калі працягнецца палітыка паскарэння эканамічнага росту, інфляцыі нам не пазбегнуць.

Леанід Заіка ўпэўнена кажа, што ўтрымаць інфляцыю на ўзроўні 12% за год можна будзе, але «не з гэтым урадам». І пытанне тут не ў кантролі за коштамі, а ў кантролі за грашыма, якія ўрад дае насельніцтву. Па словах спецыяліста, у той час, як ВУП краіны вырас на 1,5%, на 60% вырасла агульная грашовая маса. «Наш урад і кіраўніцтва Нацбанка ўвогуле трэба альбо здаць у музей, альбо ў якасці экспанату з лекцыямі вазіць па буйных краінах і паказваць вядучым эканамістам свету. Хай там яны патлумачаць, як пры павелічэнні агульнага «пірага» на 1,5%, яны на 60% павялічылі колькасць «лыжак» да гэтага пірага, і маюць намер утрымаць інфляцыю на 10%», — вобразна кажа Заіка.

Зрэшты, Антон Болтачка не выключае, што «на паперы» ўсё можа выглядаць вельмі паспяхова. «Улічваючы, што Белстат можа ўплываць на лічбы, то статыстычная інфляцыя можа заставацца на ўзроўні ніжэй фактычнага, і нават мы зможам выканаць прагнозныя паказчыкі», — кажа ён. Але каму ад гэтага будзе добра?

Пакуль што эканамісты не бачаць, як урад будзе выконваць прагнозныя паказчыкі па інфляцыі. Справа ў тым, што, па меркаванні Заікі, гэтыя прагнозы і рэальная дзейнасць — проста прафесійныя памылкі. І здараецца гэта таму, што ў Беларусі няма прафесійнага макраэканамічнага кіравання, няма каму вытрымліваць прапорцыі грашовай масы, ВУП і інфляцыі. «Зрэшты, усё павінна быць, як у Галівудзе: там прапорцыі 90х60х90, і ніхто ад іх не адыходзіць. У нас жа прапорцыі 110х120х130, мы робім, што хочам. Без прапарцыйнасці ніякія прагнозы па інфляцыі не вытрымаюцца», — кажа Заіка.

Беларусам трэба зноў шукаць варыянты, каб захаваць свае грошы ў надзейным ад інфляцыі месцы. Тое, што яна будзе прырастаць — ні для каго, здаецца, не сакрэт. Інфляцыю можна якую заўгодна «намаляваць на паперы», але ў гаманцах людзей, безумоўна, будуць іншыя лічбы.

А ўладзе трэба паберагчыся з аптымістычнымі прагнозамі. Ужо ў гэтым годзе — пачатак новай выбарчай кампаніі, на гэты раз у мясцовыя саветы. І ад таго, як беларусы пражывуць 2013 год, залежыць тое, якія «лічбы даверу» атрымае сённяшняя ўлада ў наступным. А пакуль што такія лічбы з'ядае тая самая інфляцыя.

ПРАБЛЕМА

# НЕБЯСПЕЧНАЯ МІГРАЦЫЯ

Сяргей ПУЛЬША

**Беларусь перасягнула тую рысу, калі ад'езд нашых грамадзянаў за мяжу на працу стаў пагрозай нацыянальнай бяспецы.**



Згодна з афіцыйнай статыстыкай, шмат народу проста знікае з беларускай эканамічнай прасторы. Калі так працягнецца і надалей, проста не будзе каму плаціць падаткі ў дзяржаўны бюджэт.

Паводле звестак Белстата, насельніцтва Беларусі на 1 студзеня 2013 года склала 9 млн. 463,3 тыс. чалавек. Аднак, разам з тым, Белстат падаў лічбы і па агульнай занятасці насельніцтва. Па гэтых лічбах, у эканоміцы Рэспублікі Беларусь у 2012 годзе было занята 4 млн. 571,1 тыс. чалавек, што на 1,8% менш, чым у 2011 годзе. Колькасць беспрацоўных, зарэгістраваных у органах па працы, занятасці і сацыяльнай абароне, на канец снежня 2012 года склала 24,9 тыс. чалавек, што на 11,5% менш, чым на канец снежня 2011 г., і на 4,1% менш, чым на канец лістапада 2012 г.

У выніку простага арыфметычнага дзеяння вымалёўваецца катастрафічнае становішча. Калі адняць ад колькасці насельніцтва колькасць тых, хто працаваў у 2012 годзе, то атрымаецца 4 млн. 892,2 тыс. чалавек. То бок, непрацоўных у нас, уключаючы дзяцей, інвалідаў і пенсіянераў, на 320 тысяч больш за колькасць людзей, якія працуюць.

Адсюль і вынікае праблема. На аднаго працоўнага чалавека, які плаціць падаткі, прыходзіцца больш за аднаго «ўтрыманца». А калі адняць ад лічбы працоўных тых жа «бюджэтнікаў» і скіраваць іх ва «ўтрыманцы», то малюнак атрымаецца зусім бязрадасны. Здаецца, нашай эканоміцы ў бліжэйшым часе ўвогуле павінен надысці поўны швах.

Насамрэч лічбы не такія, якія падае Белстат. Як пісаў філосаф Валянцін Акудовіч, цяжка ўявіць беларуса, які не п'е і не працуе. Зразумела, людзі працуюць. Але — не ў нашай дзяржаве.

Па незалежных падліках, за мяжой працуе каля паўтара мільёна беларусаў. Мы з Расіяй знаходзімся ў адзінай эканамічнай прасторы, ды яшчэ і ў Саюзнай дзяржаве, таму ўладкавацца туды на працу — не вялікая праблема. Пры гэтым нават самыя лепшыя беларускія заробкі супастаўляльныя, калі не меншыя, з заробкамі ў Расіі. Вось і імкнуцца людзі туды, дзе больш плацяць. Акрамя таго ёсць яшчэ адзін немалаважны фактар — грамадзяне, якія едуць на працу ў Расію, не маюць моўнага бар'еру. Таму, зразумела, на Захад едуць значна менш.

Дарэчы, сітуацыя на беларускім працоўным рынку абвастраецца не толькі колькасцю, але і якасным складам тых, хто едзе ў Расію. Туды, па меркаванні шмат якіх экспертаў, едуць, па-першае, высокакваліфікаваныя, па-другое, маладыя, і па-трэцяе, «дэфіцытныя» прафесіяналы. Такіх не хапае і ў Беларусі, а навучаць моладзь прафесіі здольныя толькі яны. Такім чынам, у Беларусі застаюцца альбо навічкі ў прафесіі, якім трэба набірацца досведу працы і засвойваць сакрэты майстэрства, альбо нізкакваліфікаваныя супрацоўнікі.

Утрымаць людзей ад ад'езду «на заробкі» можна. Як казалі ў старой рэкламе, «карміць трэба, тады не паляцяць». Зараз шмат гавораць пра ўніфікацыю розных ставак і акцызаў у межах Адзінай эканамічнай прасторы і Мытнага саюза Беларусі, Расіі і Казахстана. Але пачынаць трэба было не з акцызаў і пошлін — пачынаць трэба было з уніфікацыі заробкаў. Каб была ўніфікацыя заробкаў, не скардзіліся б мы на тое, што з-за Мытнага саюза павялічваюцца кошты ў крамах.

А яшчэ трэба па-чалавечы ставіцца да сваіх кадраў.

Як расказаў мне адзін знаёмы, на будоўлі сумнавядомай Беларускай АЭС, беларускія працоўныя зараблялі 6–7 мільёнаў беларускіх рублёў, сярэдні заробак для будаўнічай галіны па краіне. У беларускіх спецыялістаў вышэйшага ўзроўню заробак даходзіў і да 9 мільёнаў. Але ж расійскія будаўнікі, якія прыязджалі будаваць АЭС, па словах суразмоўцы, «анічога не ўмеючы рабіць, акрамя як швэндацца п'янымі і раздаваць указанні», атрымлівалі да 40 мільёнаў рублёў!

І сапраўды, калі нашы працоўныя не проста едуць, а іх прымаюць у Расіі, то няўжо ў нашых спецыялістаў кваліфікацыя ніжэйшая, чым у Расіі? Калі расійскім небаракам дзяржава плаціць па 40 мільёнаў рублёў, значыць, ёсць у дзяржавы грошы на такія заробкі. Дык чаму б замест аднаго расійца не наняць двух беларусаў з годным заробкам?

Праца за мяжой мае і свае хібы. Нядаўна з Дагестана вызвалілі чатырох нашых суайчыннікаў, якія на працягу сямі месяцаў працавалі на цагельні сяла Краснаармейск, паблізу ад Махачкалы. Працавалі па 12 гадзін у суткі, «за ежу». Фізічнаму гвалту, прычым, палонныя не падвяргаліся. На іх ціснулі псіхалагічна — аповедамі аб бясчынствах баевікоў. Вызваленне стала магчымым пасля ўмяшання супрацоўнікаў МУС Расіі і валанцёраў моладзевага руху «Альтэрнатыва».

Многія нашы суайчыннікі, якія выязджаюць на заробкі ў Расію, шукаюць працу самастойна, не заключаюць кантракты, уладкоўваюцца неафіцыйна, працуюць па вусных дамоўленасцях. У такіх выпадках вялікая верагоднасць, што чалавека проста «кінуць». І нічым яму нельга дапамагчы, бо ў людзей няма дакументаў, якія пацвярджаюць, што яны працавалі. Многія ўладкоўваюцца на працу ў Расію праз аб'явы ў інтэрнэце, а ў гэтых аб'явах шмат чаго «ліпавага». І здараецца часцяком, што чалавека запрашалі на працу ў Маскву, а з Масквы яго адправілі ў Мурманск — на Поўнач, але за тыя ж грошы.

Таму, калі дзяржава сапраўды жадае ўтрымаць працоўных тут, у Беларусі, ёй трэба вельмі шчыльна клапаціцца пра сваіх людзей. Гэта не значыць — перакрыць мяжу, гэта значыць стымуляваць іх заставацца тут: сацыяльнымі гарантыямі, вышэйшымі заробкамі, чалавечым стаўленнем да працоўнага. Бо будзе задаволены чалавек — будзе задаволеная і дзяржава. А пакуль гэтага не будзе, нашы працоўныя будуць збягаць туды, дзе ім больш заплацяць.

## 8 ЛЮТАГА, ПЯТНІЦА



**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!.
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Маруся. Выпрабаванні» .
**10.05** Серыял «Джамайка»).
**11.00** Серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** Камедыя «Вольнае плаванне».
**14.00** Дэтэктыўны серыял «Бігль» (Расія).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад».
**16.20** Актуальнае інтэрв'ю.
**16.40** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**17.30** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.25, 23.45** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Дакум. цыкл «Зорнае жыццё».
**21.00** Панарама.
**21.55** Серыял «Неверагодныя гісторыі кахання».
**22.50** Серыял «Містычныя гісторыі».
**00.30** Дзень спорту.
**00.40** Серыял «Майстры жахаў».
**01.40** Серыял «Пад сонцам».



**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера. «Добрага здароўейка!».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Хачу ведаць».
**17.00** « І не было лепшага брата…».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе. «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Баявік «Заходны код».
**22.50** «Вячэрні Ургант».
**23.50** АНТ прадстаўляе. Сольны канцэрт групы «Лепрыконсы».
**01.10-01.40** Начныя навіны.



**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінщчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Каханне 911».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Дом ветру». Расія, 2011 г.
**15.45** «Хораша жыць».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мінщчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Шпіёнскі запал».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Адмысловы праект».
**00.40** Фільм «Танцы ў «Блакітнай ігуане».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Дакументальна-пазнавальны серыял «Мудрагелістыя светы».
**11.15** Меладрама «Цётка Маруся».
**13.45** Драма «Лёс чалавека» (СССР).
**15.55** «Акадэмік Ігнат Антонаў. Чалавек-легенда». Дакументальны фільм.
**16.40** Наперад у мінулае.
**17.15** Беларуская кухня.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. Алімпійская кваліфікацыя. Беларусь - Украіна. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Арэна.
**22.00** Фактар сілы.
**22.35** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.20** Крымінальная драма «Бумер».



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Гром».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Сонька. Працяг легенды».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Ластаўчына гняздо».
**22.10** «Юрмала». Фэст гумарыстычных праграм.
**00.00** Навіны - Беларусь.
**00.10** Фільм «Два кветкі ў Венецыю».
**01.50** Фільм «Помста» (2007 г.).



**06.00** «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «І зноў добры дзень!».
**11.15** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** Серыял «Муж і жонка».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Марскія д'яблы. Вікраслуп».
**21.15** Серыял «Самотны воўк».
**22.55** Баявік «Брыгада».
**00.00** «Бітва за Поўнач. Беламорканал».
**00.45** Вострасюжэтны серыял «Дэманы».



**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.25** М/с «Апошні з магікан».
**07.10** «Цік-так». [6+].
**07.40** «Джэймі. Абед за 30 мінуць».
**08.10** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Т/с «Гарачы лёд».
**10.45** «На шашлыкі».
**11.15** «Усюды жыццё».
**11.40** «Рэспубліка сёння».
**12.25** Т/с «Трое зверху».
**13.15, 02.55** М/ф «Следства вядуць знаўцы».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 02.30** «Сакрэтныя матэрыялы».
**17.30** «Злачынства і пакаранне».
**18.30** «Акцэнты».
**18.50** М/ф «Шлюб па разліку».
**21.25** «Любімыя акцёры».
**21.55** М/ф «Белы Бім - Чорнае вуха».
**00.55** Т/с «Камісар Навара».



**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат». Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.35** Euromaxx.
**10.00** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял.
**10.45** «У пошуку ідышу», дак. фільм.
**12.15** Студыя «Белсат».
**13.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**14.15** Аб'ектыў.
**14.40** Студыя «Белсат». Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.55** Euromaxx
**15.20** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял.
**16.05** «У пошуку ідышу», дак. фільм.
**17.35** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**18.00** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.30** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх. «Матыльда».
**19.00** Студыя «Белсат». інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат». Дэвайс.
**19.20** Студыя «Белсат». Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат». Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат». Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат». Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Студыя «Белсат». Гарачы каментар.
**20.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат». Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат». Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Аповеды выходнага дня», цыкл маст. фільмаў.
**22.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**23.15** Студыя «Белсат».
**00.45** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01.10** Аб'ектыў.
**01.40** Студыя «Белсат». Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**01.55** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 9 ЛЮТАГА, СУБОТА



**07.10** Камедыя «Каралева бензакалонкі» (СССР).
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Здароўе.
**10.00** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**11.00** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**11.30** Зямельнае пытанне.
**12.10** Камедыя «Асаблівасці нацыянальнай рыбалкі» (Расія).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Камедыя «Вольнае плаванне» (Расія).
**17.20** Evrovision. Вынікі тыдня.
**17.35** Каробка перадач.
**18.05** Таямніцы следства.
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.15** Меладрама «Там, дзе жыве каханне» (Расія-Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.40** Крымінальны трылер «Уцёкі» (Расія).
**23.45** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**00.40** Дзень спорту.
**00.50** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне « (Расія).



**07.00** АНТ прадстаўляе. «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Разумніцы і разумнікі».
**11.50** Ералаш.
**12.10** Фільм «Справа была ў Пяньковe».
**14.00** Фільм «Дажывём да панядзелку».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. «Вячаслаў Ціханаў. Стомлены лёсам».
**17.25** АНТ прадстаўляе. «Адзін супраць усіх».
**18.10** «Успамінаючы Вячаслава Ціханава».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.45** Прэм'ера. Камедыя «Вар'яцкае спатканне».
**00.25-02.00** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў.



**06.05** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**07.45** «Анфас».
**08.00** Фільм «Шпіёнскі запал». Францыя, 2006 г.
**09.40** «Жыць будзеце».
**10.10** «Чыстая праца».
**11.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.05** «Прыгоды дылетанта».
**13.40** Фільм «Вялікая змена». СССР, 1972 г. 3 серыя.
**15.00** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Уявіце сабе».
**18.00** Фільм «Сны». Расія, 1993 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Матч-пойнт». Вялікабрытанія-ЗША, 2005 г.
**22.30** «Дзіўная справа».
**23.20** Фільм «Бяжы без аглядкі». ЗША-Германія, 2006 г.
**01.25** «Глядзець усім!».



**06.40** Дабравест.
**07.05** Меладрама «Цётка Маруся» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**09.25** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**10.35** Тэлебарометр.
**10.40** Пазакласная гадзіна.
**10.55** Альбарутэнія.
**11.30** Наперад у мінулае.
**12.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.40** Беларуская кухня.
**13.15** Эксцэнтрычная камедыя «Залатое цяля» (СССР). 1-я серыя.
**14.50** Біятлон. Чэмпіянат свету. Спрынт. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**16.20** Парушаючы запаведзі….
**17.35** Фактар сілы.
**18.05** Біятлон. Чэмпіянат свету. Спрынт. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**19.30** Ваша лато.
**20.15** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ер-ліга. Прамая трансляцыя. У перапынку. 21.20 «КЕНО».
**22.25** Тэлебарометр.
**22.30** «Імперыя песні». Музычна-забаўляльнае караоке-шоў.
**23.35** Моладзевая камедыя «Ніхто не ведае пра сэкс-2» (Расія).
**01.10** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).



**07.00** «Юрмала». Фэст гумарыстычных праграм.
**08.40** Фільм «Два кветкі ў Венецыю» (2011 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.10** «Суботнік».
**11.50** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**12.15** Фільм «Чалавек з іншага боку».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**14.50** «У пошуках раю».
**15.40** «Мода для народу».
**16.30** Тэлесерыял «Сваты».
**18.20** «Суботні вечар».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.40** «Фактар А».
**22.30** Фільм «Пятровіч» (2012 г.).
**00.25** Фільм «Толькі каханне» (2011 г.).



**06.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00** Сёння.
**08.20** Агляд.
**08.50** «Гатуем».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.55** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** Дэтэктыўны серыял «Версія».
**14.55** «Судовы дэтэктыў».
**16.00** Выратавальнікі.
**16.30** «Следства вялі.».
**17.20** Вострасюжэтны серыял «Адысея шпіка Гурава».
**19.00** Сёння.
**19.25** Вострасюжэтны серыял «Адысея шпіка Гурава».
**21.05** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**22.00** «Ты не паверыш!».
**23.55** «Прамень Святла».
**23.25** Фільм «Слепата».



**05.00** М/ф «Васіліса Цудоўная».
**06.15** М/ф-мы.
**07.40** «Мільён пытанняў пра прыроду». [6+].
**07.55** М/с «Смешарыкі».
**08.15** «Эксперыментатары».
**08.30** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Зроблена ў СССР».
**09.40** «На шашлыкі».
**10.10** «Любімыя акцёры».
**10.30** Т/с.
**15.10** М/ф «Анёл».
**16.55** М/ф «Смага помсты».
**19.20** «Навіны Садружнасці. Культура».
**20.10** «Практычная магія».
**20.55** М/ф.
**22.40** Т/с.
**03.15** М/ф «Каралі хуткасці».



**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат». Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.05** Кулінарная падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.55** Форум (ток-шоу).
**11.45** Казкі для дзетак. «Цюхця, што ты за стварэнне?!», «Фільм са страшнаю назваю», «Экспедыцыя прафесара Губкі».
**12.15** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял. 6 серыя.
**13.00** "Час гонару", серыял. 8 серыя.
**13.50** Музычныя кліпы.
**13.55** Без межаў.
**14.10** Дакументальная гадзіна. «1863 год», дак. фільм, 2013 г., Польшча.
**15.10** Два на два (тэледыскусія).
**15.40** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял. «Вайна імператараў».
**16.05** МакраФон. «Be Free–2008», фестываль. выступ гурта «Крама».
**16.40** «Аповеды выходнага дня», цыкл маст. фільмаў, 1996–2000 гг., Польшча. «Апошні круг», 1997 г.
**17.35** «Калі сэрца ў чаканні», серыял. 6 серыя.
**18.00** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.30** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх. «Польскія казкі і паданні».
**19.00** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.15** «Ваенныя гульні», дак. фільм, 2009 г., Польшча. 3 серыя.
**20.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**20.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд). выд. 17.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Невядомая Беларусь. «Найвышэйшая мера», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**21.50** Суботні сеанс. «Лэдзі ўдачы», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**23.40** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**00.05** Аб'ектыў.
**00.25** Жаўтуха (сатырычная праграма).

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 10 ЛЮТАГА, НЯДЗЕЛЯ




**07.15** Камедыя «Асаблівасці нацыянальнай рыбалкі» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Нашы.
**09.55** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне « (Расія).
**10.55** Медычныя таямніцы.
**11.25** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.10** Камедыя «Каралева бензакалонкі».
**13.45** Evrovision. Вынікі тыдня.
**14.05** «Трыўмф. Героям спорту «. Дзённік.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Заўтра - гэта мы!.
**16.00** Культурныя людзі +.
**16.35** Меладрама «Жорсткі раманс» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**19.10** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**20.00** «Месца сустрэчы». Музычна-забаўляльная праграма.
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Містычная камедыя «Няма вестак ад Бога» (Іспанія-Францыя -Італія).
**00.25** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).



**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.50** Фазэнда.
**11.25** АНТ прадстаўляе. «Брэйн-рынг».
**12.25** Ералаш.
**12.55** Фільм «Станцыйны наглядчык».
**14.15** Фільм «Радня».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Фільм «Экіпаж».
**18.50** АНТ прадстаўляе. «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Здабытак Рэспублікі».
**23.20** «Yesterday live».
**00.20-02.10** Камедыя «Пацалуй мяне на развітанне».




**06.10** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**07.50** Фільм «Матч-пойнт». Вялікабрытанія-ЗША, 2005 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Жыць будзеце».
**10.50** «Вялікі сняданак».
**11.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**12.25** «Добры дзень, доктар».
**13.00** Фільм «Вялікая змена». СССР, 1972 г. 4 серыя.
**14.15** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Турэцкі гамбіт». 23.00 Прэм'ера. «Пякельная кухня - 2».
**00.30** Фільм «Субмарына».




**06.55** Таямніца душы.
**07.20** Камедыя «Хачу ў турму» (Расія).
**09.05** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**10.15** Тэлебарометр.
**10.20** Пазакласная гадзіна.
**10.40** Альбарутэнія.
**11.15** Пра мастацтва.
**11.45** Вышэй за дах.
**12.20** Эксцэнтрычная камедыя «Залатое цяля» (СССР). 2-я серыя.
**14.15** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**14.50** Біятлон. Чэмпіянат свету. Гонка пераследу. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**16.05** Камедыя «Хачу ў турму» (Расія).
**18.05** Біятлон. Чэмпіянат свету. Гонка пераследу. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**18.55** Суперлато.
**19.55** Хакей. Алімпійская кваліфікацыя. Данія - Беларусь. Прамая трансляцыя. У перапынку. **21.25** «Спортлато 5 з 36» і «КЕНО».
**22.15** Навіны надвор'я.
**22.50** Спорт-кадр.
**23.35** Баскетбол. Ліга ВТБ.
**01.15** Камедыйны серыял «Светлафор».




**07.00** Фільм «Сцяжынка ўздоўж ракі» (2011 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.15** Мультфільмы.
**12.30** Фільм «Вылет затрымоўваецца».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Чорныя дзюры. Белыя плямы».
**15.05** «Холад».
**16.00** «ХА». Маленькія камедыі.
**16.15** Тэлесерыял «Сваты».
**18.15** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** «Фактар А».
**23.10** «Нядзельны вечар».




**06.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**08.50** «Іх норавы».
**09.30** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Жывуць жа людзі!».
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Паедзем, паямо!».
**12.30** «Цуд тэхнікі».
**13.00** Сёння.
**13.20** Вострасюжэтны серыял «Грамадзянка начальніца. Працяг».
**16.50** «Жаночы погляд».
**17.35** «Вочная стаўка».
**18.30** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.55** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**20.40** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**21.35** Вострасюжэтны фільм «Сёмая ахвяра».
**23.20** «Рэакцыя Васэрмана».
**23.50** «Школа зласлоўя». Ток-шоў.




**05.00** М/ф «Доктар Айбаліт».
**06.10** М/ф-мы.
**07.45** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**08.00** М/с «Смешарыкі».
**08.15** «Ведаем рускую».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Даведнік».
**09.40** «Ежа».
**10.10** «Незорнае дзяцінства».
**10.30, 23.00** Т/с.
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.50, 21.00** Т/с «Куля - дурніца».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**03.35** М/ф «Дзесяць жыццяў ката Тытаніка».




**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак. «Аблавушак», «Матыльда», «Прыгоды і паходы».
**07.45** «Калі сэрца ў чаканні», серыял. 6 серыя.
**08.10** Беларусы ў Польшчы.
**08.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.25** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**09.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.20** Музычныя кліпы.
**10.35** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.00** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**11.15** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.35** Казкі для дзетак. «Аблавушак», «Матыльда», «Прыгоды і паходы».
**12.05** «Калі сэрца ў чаканні», серыял.
**12.30** «Час гонару», серыял. 9 серыя.
**13.15** «Польская кухня», серыял.
**14.25** «Ваенныя гульні», дак. фільм, 2009 г., Польшча. 3 серыя.
**15.10** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**15.20** МакраФон. «Рок-карона. 1994–1996», архіўныя запісы.
**15.55** «Лэдзі ўдачы», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**17.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.10** Невядомая Беларусь. «Найвышэйшая мера», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх. «Польскія казкі і паданні».
**19.05** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял. «Аперацыя «Берлін-45».
**19.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**20.10** Дакументальная гадзіна. «Горад жанчын», дак. фільм.
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.55** Форум (ток-шоў).
**22.40** Фільматэка майстроў. «Мой Нікіфар», маст. фільм, 2004 г., Польшча.
**00.20** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд). выд. 17.
**00.45** Два на два (тэледыскусія).
**01.15** Жаўтуха (сатырычная праграма).

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты. **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка. 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі. 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

Гомель. (8 029) 697 82 75 Аляксандр;
Магілёў. (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск. (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск. (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк. (8029) 364 42 60 Зінаіда.

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

ЦІКАВА

# ТАНКІ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

Алег НОВІКАЎ

**150-годдзе паўстання 1863–1864 гадоў не абышлі ўвагай польскія літаратары, якія працуюць у жанры альтэрнатыўнай гісторыі.**

Аказваецца гэты напрамак у Польшчы карыстаецца адносным поспехам. Існуюць нават цэлыя выданні накштальт «Narodowe Centrum Kultury», якія паслядоўна прапануюць свае версіі таго, якой магла быць рэальнасць, калі б гісторыя ў адзін са сваіх пераломных момантаў (так званы пункт біфуркацыі) пайшла па іншым шляху. Часам фантасты выдаюць, мякка кажучы, экстравагантны прадукт.

Напрыклад, восенню мінулага года вялікі рэзананс выклікала кніга «Wallenrod» (аўтар Марцін Вольскі). Твор Вольскага прысвечаны … перамозе Польшчы ў Другой сусветнай вайне. Галоўную ролю ў перамозе, паводле версіі Марціна, адыграў Юзаф Пілсудскі, які не памёр у 1938-м, а застаўся польскім начальнікам. Вольскі надзяляе Пілсудскага вялікімі вайсковым і дыпламатычным талентамі. Менавіта з яго падачы напрыканцы 1938 году Варшава і Берлін заключаюць пакт супраць камуністычнай экспансіі ў Еўропе. У сферу кантролю Берліна ў выніку пераходзяць Гданьск і Чэхія, а Польшча, у сваю чаргу, усталёўвае пратэктарат над Славакіяй.

Пасля пачынаецца самае фантастычнае. Польска-нямецкі саюз становіцца фундаментам антыбальшавіцкага адзінства ўсіх народаў Усходняй Еўропы. Ужо на пачатку 1940 года прымаецца Варшаўскі пакт, падпісанты якога — усе дзяржавы рэгіёну плюс прадстаўнікі украінскай і беларускай антысталінскай апазіцыі. Не адкладваючы справу надоўга, арміі толькі што створанага блоку пераходзяць межы СССР. Напад заспявае Маскву знянацку. У Маскве хаос. Берыя забівае Сталіна і прывозіць у СССР у якасці альтэрнатывы з эміграцыі Троцкага. Але ў выніку анархіі да ўлады вяртаюцца Раманавы, якім адразу працягвае руку дапамогі Лондан. Гэта прымушае Гітлера і Пілсудскага даць загад сваім генералам — рушыць на Вялікабрытанію праз Францыю .




У гэтым месцы фантазія Вольскага пачынае сапраўднае вывяржэнне. На дапамогу Вялікабрытаніі, якую акупавалі палякі і немцы, прыходзяць Злучаныя Штаты, якія робяць стаўку на атамную бомбу. У адказ Еўропа стварае сваю бомбу, палігонам выпрабавання якой мае быць цяперашні Чарнобыль (сюды з гэтай мэтай немцы заганяюць два мільёны яўрэяў). Аднак у апошні момант польскі лётчык (чамусьці ён належыць да сексуальных меншасцяў), які мае даставіць бомбу на палігон, кідае яе на рэзідэнцыю фюрэра. Смерць лідара Трэцяга рэйху выклікае грамадзянскую вайну ў Германіі, чым спрытна карыстаецца Пілсудскі. У выніку Польшча бярэ пад кантроль усю Еўропу.

Як бачым, дэфіцыту фантазіі польскія пісьменнікі не маюць. Таму іхнія тэорыі паўстання 1863-га года таксама захапляюць. Напярэдадні яго 150-й гадавіны пабачылі свет дзве кніжкі — «Gambit Wielopolskiego», якую напісаў Адам Пшэхшта, і «Арол, бялейшы за галубку» Конрада Левандоўскага.

Кніга Пшэхшты апісвае, як паўстанне 1863-га году …не адбылося. Усё таму, што з XXIII стагоддзя ў мінулае дасылаецца экспедыцыя, якая пераконвае ініцыятараў адмовіцца ад паўстання. Па сутнасці гэта псіхалагічная драма, калі два героі вымушаны прымаць фатальнае рашэнне наконт пачатку паўстання. У выніку яны вырашаюць, што для Польшчы будзе лепш, калі Аляксандр II давядзе свае прагрэсіўныя рэформы да фіналу і знішчыць падставы для нараджэння камунізму. Польшча пры такім сцэнары не атрымлівае незалежнасць, аднак, паводле аўтара, яна ёй быццам і не вельмі патрэбна. У Расійскай імперыі польская меншасць становіцца нефармальнай палітычнай элітай. Сама Польшча атрымлівае аўтаномію, якая дазваляе ёй балансаваць паміж барбарскай Расіяй і Еўралэндам (аналаг Еўрасаюзу), дзе пануе поўная маральная і культурная дэградацыя. Дзякуючы такому статусу Польшча не стала ахвярай культурнай асіміляцыі з Захаду і Усходу, захаваўшы лепшыя традыцыі шляхты. Хіба з той розніцай, што яе прадстаўнікі носяць не шаблі, а шматфункцыянальныя гаджэты. Нават казакі, дасланыя ў край для паліцэйскіх функцый, інтэгруюцца ў польскую культуру і становяцца адносна цывілізаванымі.

Для тых, каму хайтэкаўскія сцэны і псіхалагічныя гульні Адама Пшэхшты падаюцца сумнымі, прапануем разгарнуць кнігу Левандоўскага. Чытача чакае поўны экшан. Аўтар фантазіруе на тэму — якім быў бы стан паўстання на 1866 год. На гэты час, на яго думку, інсургенты не толькі б здолелі выстаяць перад націскам царскіх войскаў. Яны б самі перайшлі ў наступ па ўсіх франтах і адкінулі царскіх карнікаў на ўсход (фронт на трэці год паўстання праходзіць недзе за Беразінай).

Такімі поспехамі паўстанцы абавязаны не толькі дыпламатычнаму раскладу: іх маральна і матэрыяльна падтрымалі Саксонія, Францыя, Данія і Аўстра-Венгрыя. У іх ёсць геніяльны вайсковы стратэг. Здагадайцеся, хто гэта? Эмілія Плятэр. Увогуле Эмілія Плятэр была забітая яшчэ падчас паўстання 1830–1831 гадоў. Аднак, калі верыць Левандоўскаму, яна тады выжыла і праз 30 год кіруе генеральным вайсковым штабам адроджанай Рэчы Паспалітай. Яшчэ больш ўнёсак у перамогу патрыётаў, адпаведна аўтару, зрабіў Ігнацы Лукашэвіч. Калі хто не ведае, у гісторыі сапраўды існаваў такі чалавек — славуты польскі фармацэўт, хімік армянскага паходжання. Менавіта Ігнацыю Лукашэвічу належыць вынаходніцтва газы і газавай лямпы.

Аднак на старонках кнігі Левандоўскага Лукашэвіч эксперыментуе не толькі з хімічнымі прэпаратамі. Ён выдумляе першы ў гісторыі прававобраз танка, які называе «twardochod». Менавіта з дапамогаю цуда-тэхнікі, якая была зробленая напярэдадні паўстання ў глыбокім падполлі, паўстанцы выганяюць рускіх з тэрыторы Польшчы.

Дзякуючы прарывам у вобласці ВПК вызваленая Польшча як магніт прыцягвае да сябе вынаходнікаў з усёй планеты. Так, у Варшаву прыбывае будучы вынаходнік тэлеграфа Джэймс Максвэл і іншыя вядомыя вучоныя XIX стагоддзя. Праўда аўтар не захапляецца ура-патрыятызмам. Кніга заканчваецца трагедыяй. Амерыканскія вучоныя і еўрапейскія дыпламаты аказваюцца занадта прагматычнымі і ў рашучы час здраджваюць польскім саюзнікам. Паўстанне падаўленае.

Застаецца задаца пытаннем — як ставіцца да такіх твораў? Для чаго яны існуюць і якія трэнды ў грамадскім дыскурсе выклікаюць? Тут няма канчатковай пазіцыі. З аднаго боку, метафізіка гісторыі выяўляецца вельмі прымітыўна: вядучая роля ў гістарычным працэсе адводзіцца асобам, якія выходзяць за рамкі тагачаснага сацыяльна-эканамічнага фону. Так, ні Левандоўскі, ні Пшэхшта не ўзгадваюць сялянскае пытанне, якое было ключавым для лёсу паўстання 1863 году. Акрамя таго польскія альтэрнатыўныя гісторыкі яўна ідэалізуюць шляхецкую Польшчу. У Левандоўскага паўстанцы выкарыстоўваюць танкі, аднак у свядомасці засталіся ў часах Касцюшкі.

Напэўна, такая літаратура сапраўды садзейнічае прымітыўнаму разуменню гісторыі і росту патрыятычных настрояў. З іншага боку, самі аўтары адразу падкрэсліваюць, што іх твор — гэта выдумка. Плюс нацыяналісты ненавідзяць гэты жанр фантастыкі за тое, што яго аўтары вольна абыходзяцца з недатыкальнымі культавымі персонамі польскага патрыятычнага міфу. Адным словам, дэбаты вакол альтэрнатыўнай гісторыі працягваюцца. Між тым набліжаецца гадавіна Першай сусветнай вайны, і можна не сумнявацца, што нас чакае буянне фантазіі «альтэрнатыўных гісторыкаў» не толькі ў Польшчы, аднак па ўсёй Еўропе.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Кантакты з «праблемнымі» пакупнікамі зброі перыядычна выліваюцца ў абвінавачванні на адрас афіцыйнага Мінска ў парушэнні міжнародных эмбарга. Але далей інфармацыйных скандалаў справа, як правіла, не заходзіць. Для афіцыйнага Мінска праблема ў іншым: краіны, на ўзбраенні якіх з-за «ідэйных разыходжанняў» няма прадукцыі ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі, іншых заходніх вытворцаў, не заўсёды багатыя, а часам задзейнічаны ва ўзброеных канфліктах, падчас якіх не да пераабсталявання войскаў. Патэнцыйныя рынкі Кітая і Індыі вельмі прывабныя, але без капіталаўкладанняў на ўласны ВПК Мінску цяжка на іх прэтэндаваць.

**«ВВС» (Вялікабрытанія)**

Паводле звестак беларускага статыстычнага ведамства, сярэдняя зарплата ў Беларусі ў снежні 2012-га дасягнула $550. Зарплата ў беларускай прамысловасці склала $616, у будаўніцтве — $650, на транспарце і ў сувязі — $629, у органах дзяржкіравання — $600, у сельскай гаспадарцы — $397, у адукацыі — $374, у працаўнікоў аховы здароўя — $438. Але гаворка ідзе пра гэтак званую налічаную зарплату, гэта значыць да выплаты падаткаў і іншых абавязковых утрыманняў. Рэальная ж атрымліваецца прыкладна на 30% меншай. А тэмпы росту спажывецкіх коштаў у Беларусі ў 2012 годзе былі самымі высокімі ў СНД.

**«Газета» (Расія)**

Ці варта сур'ёзна ўспрымаць заявы прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі пра тое, што Беларусь пераарыентоўвае свае грузы з балтыйскіх партоў на расійскія? Пры ўсёй да яго павазе часам вельмі цяжка прасачыць логіку выказванняў спадара Лукашэнкі. Напэўна, для гэтага ёсць нейкія магчымасці, але калі бізнэс зрабіў свой выбар, то зрабіў яго па сваіх разліках. Нашы парты ўсё ж бліжэй за расійскія, і ўзнікае пытанне, хто будзе плаціць за беларускія грузы, якія пойдуць пакуль яшчэ не ясна куды. Калі мы паглядзім на аб'ёмы гандлю з Беларуссю, то гэта 1–2% нашага ВУП. Калі ж глядзець на сферу транзіту, Беларусь і Расія ажыццяўляюць самы вялікі транзіт праз Латвію, і, напэўна, таксама і праз Літву.

**«Vesti» (Латвія)**

Улады нават не хаваюць, што знешнія абавязнасці будуць выплачвацца не за кошт зароблены грошай, а за кошт новых пазык. У той жа час ніякіх дадатковых валютных паступленняў у новым годзе не чакаецца. Больш за тое, абваліліся кошты на важны экспартны прадукт Беларусі — калій. Напрыканцы тыдня Нацыянальны банк падвёў вынікі па знешніх выплатах у 2012 годзе. Як вынікае з паведамлення, сальда склалася адмоўным. Беларусь заплаціла на 628 млн. дол. больш валюты, чым атрымала, што складае 1% ад ВУП. Паказальна, што «мінус» стаў фармавацца бліжэй да канца года, што эксперты звязваюць са спыненнем па патрабаванні Расіі экспарту растваральнікаў. Па іх ацэнках, ніякай верагоднасці замяшчэння гэтых прыбыткаў у 2013 годзе не праглядаецца, а значыць, «мінус» у знешніх платах можа надысці значна раней.

**«Независимая газета» (Расія)**

Пазіцыю Казахстана падтрымлівае прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які таксама выступае супраць узмацнення палітычнай інтэграцыі ў рамках гэтага праекта (Еўразійскі Саюз). Гэта азначае, што нягледзячы на імкненне Расіі, інтэграцыйныя праекты не з'яўляюцца на сёння процівагай для Еўрапейскага Саюзу, і няма выразных перспектыў таго, што яны маглі б стаць такой процівагай у найбліжэйшай будучыні.

**УНІАН (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТУРЦЫЯ. КУРДАМ ДАЗВОЛЕНА РАЗМАЎЛЯЦЬ НА РОДНАЙ МОВЕ

Турэцкі парламент прагаласаваў за рэвалюцыйны закон, які дазваляе курдам размаўляць ў судзе на роднай мове. Закон нялёгка даўся народным абраннікам. Мала таго, што дэбаты цягнуліся тры дні, дык яшчэ час ад часу яны пераходзілі ў адкрытыя бойкі паміж сябрамі фракцыі курдскай Партыі міру і дэмакратыі і турэцкімі нацыяналістамі. Апошнія рашуча выказаліся супраць таго, каб «нацыянальная ідэнтычнасць курда была роўная турэцкай». Так ці інакш закон прыняты, і кожны пяты турэцкі грамадзянін (менавіта столькі курдаў у Турцыі) можа карыстацца матчынай мовай падчас судовых працэсаў. Да гэтага часу закон наўпрост не забараняў выкарыстоўваць замежныя мовы у судзе, аднак, як правіла, суддзі патрабавалі, каб з імі размаўлялі на турэцкай мове. Дарэчы курдская грамадскасць арганізавала падчас слуханняў кампанію ў абарону правоў курдскай мовы. Да яе нават падключыліся асуджаныя курды ў турмах. Яны правялі галадоўку ў падтрымку закона. Палітолагі пішуць, што адной з прычын прыняцця гэтага закона ёсць намер турэцкіх уладаў пачаць дыялог з Рабочай партыяй Курдыстана, чый лідар сядзіць у турэцкай турме.

**Паводле іспанскай прэсы**

### МАЛДОВА. ТРЫ ГАДЫ ЗА РУСАФОБІЮ

Віктар Краўчанка, сціплы выкладчык матэматыкі ў ПТВ малдаўскага горада Бельцы ў лістападзе мінулага года нечакана для сябе стаў галоўным русафобам Малдовы. На сайце YouTube быў выкладзены 20-хвілінны запіс з уроку, на якім настаўнік пагражаў рускамоўным вучням і абражаў іх. Сярод іншага ён абяцае сустрэцца з імі ў цёмным завулку і разабрацца. Кампартыя Малдовы адразу запатрабавала завесці на Краўчанку крымінальную справу. Пракуратура, якую кантралююць дэмакраты, хацела абмежавацца адміністрацыйным артыкулам, аднак здалася. На выкладчыка заведзена крымінальная справа па артыкуле 346 (наўмысныя дзеянні, накіраваныя на распальванне нацыянальнай, расавай ці рэлігійнай варожасці ) Крымінальнага кодэкса Малдовы. Гэты артыкул прадугледжвае штраф у памеры да 250 умоўных адзінак, ці грамадскія працы на тэрмін ад 180 да 240 гадзін, ці пазбаўленне волі на тэрмін да 3 гадоў.

**Паводле малдаўскай прэсы**

### ФАЛЬКЛЕНДЫ. ПРЫЗНАЧАНА ДАТА РЭФЕРЭНДУМУ

Урад Фальклендскіх астравоў прызначыў дату рэферэндуму. 10–11 сакавіка жыхары архіпелагу павінны даць адказ на пытанне: «Ці хочаце вы, каб Фальклендскія астравы захавалі свой цяперашні прававы статус заморскай тэрыторыі Аб'яднанага Каралеўства?» У выпадку, калі большасць прагаласуе супраць, урад гатовы разглядзець пытанне ўваходу Фальклендаў у склад Аргенціны. Праўда, такі варыянт выглядае фантастычным. Практычна ўсе тры тысячы жыхароў астравоў маюць брытанскае паходжанне. Па сутнасці, за кошт рэферэндуму Лондан хоча пазбавіцца ад надакучлівых патрабаванняў Буэнас-Айрэса вярнуць астравы. Апошні раз такое патрабаванне аргенцінскі прэзідэнт Крысціна Кірхнер агучыла на мінулым тыдні, даслаўшы прэм'еру Вялікабрытаніі Дэвіду Кэмерану асабісты ліст. Між тым, наўрад ці канфлікт закончыцца, калі будуць падведзеныя вынікі галасавання. Інакш навошта брытанскае Мінабароны распрацавала новы сакрэтны план абароны Фальклендаў на выпадак аргенцінскага дэсанту.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. ЦІМАШЭНКУ ХОЧУЦЬ ЗРАБІЦЬ ЗАБОЙЦАЙ



Цікавыя наступствы мела пастанова пракуратуры Украіны, якая абвясціла Юлію Цімашэнку падазронай у забойстве губернатара Данецкай вобласці Яўгена Шчэрбаня. Нагадаем, што губернатар быў забіты ў 1996 годзе на аэрадроме невядомымі кілерамі. Следства дзіўным чынам пачало пасоўвацца толькі зараз. Такім чынам пракуратура лічыць, што Цімашэнка, якая тады ўваходзіла ў Днепрапятроўскі клан прэм'ера Паўла Лазарэнкі, мела інтарэс да прыватызацыі шэрагу аб'ектаў у Данбасе, чаго не жадаў Шчэрбань. Пытанне, маўляў, вырашылі па формуле: няма чалавека — няма праблемы. Па словах генпракурора, спачатку Лазарэнка заплаціў злачыннай групе 500 тысяч долараў, а затым Цімашэнка пералічыла яшчэ 2,3 мільёна за забойства. Між тым апазіцыя заклікае следчыя органы пашырыць поле падазраваных і шукаць іншых людзей, якія таксама мелі матывы забіць чыноўніка. На думку дэпутатаў апазіцыі, такім чалавекам ёсць Віктар Януковіч, які атрымаў больш за ўсіх гешэфтаў ад таго забойства. Дзякуючы смерці Шчэрбаня ён зрабіў фантастычную кар'еру, атрымаўшы праз чатыры месяцы пасаду губернатара Данецкай вобласці. Як лічыць апазіцыя, калі б Шчэрбань быў жывы, пра гэта Віктар Фёдаравіч мог нават не марыць.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

▸ ЦІКАВА

# ПРЫГОДЫ АДНОЙ ЛІТАРЫ

**Алег НОВІКАЎ**

**Украінскае грамадства адзначае незвычайны юбілей. 80 год таму камуністы забаранілі літару «Ґ».**




Дарэчы гэтая літара, якая абазначае зычны гук «г» выбухны, прысутнічала таксама ў беларускім класічным правапісе. Аднак у савецкі афіцыйны беларускі правапіс яна не трапіла. А вось ва Украіне «Ґ» была уключана ў т.з. Харкаўскі канон або «скрипниківку», прынятую ў 1927 годзе на Усеўкраінскай канферэнцыі правапісу, якая праходзіла ў Харкаве, у той час сталіцы УССР (Скрыпнік — тагачасны лідар савецкай Украіны).

Магчыма, гэта было звязана з тым, што моду ва ўкраінскай лінгвістыцы задавалі філолагі з Заходняй Украіны, якія ў выніку большых палітычных свабодаў раней пачалі распрацоўваць нормы граматыкі і фанетыкі. Пасля рэвалюцыі 1848-га году ў Львове сабраўся «Сабор вучоных рускіх» і пастанавіў, што лацінская «g» мае перадавацца ва ўкраінскай мове ў форме «Ґ». Гэтая літара з'яўляецца ў першых украінскіх газетах. Напрыканцы 1890-х гадоў яна трапляе ў афіцыйна зацверджаны аўстра-венгерскімі ўладамі правапіс, які называецца «жэлехіўка» (па прозвішчы філолага Жэлехіўскага). Першая руская рэвалюцыя легалізуе выкарыстанне ўкраінскай мовы. У бурны рэвалюцыйны час усходнія ўкраінцы, каб не губляць час на стварэнне новых правіл, узялі на ўзбраенне «жэлехіўку».

Ніякіх праблем з «Ґ» не было, пакуль у 1930-я гады ў Савецкай Украіне не пачалося паляванне на нацыяналістаў. Папярэднія нормы ўкраінскай мовы адразу прызналі нацыяналістычнымі. У 1933-м пры ўкраінскім Саўнаркаме была створаная камісія, якая вырашыла, што «Ґ» аддзяляе рускі і ўкраінскі народы.

Украінская інтэлігенцыя палічыла гэта замахам на мову. Падчас вайны была створаная новая камісія, якую дарэчы ўзначаліў вядомы паэт Паўло Тычына. Ён спрабаваў вярнуць забароненую літару ў алфавіт, аднак яму было рашуча адмоўлена. Не была «ґ» рэабілітаваная і ў варыянце правапісу 1961 года.

Як пісалі афіцыйныя часопісы ў часы Брэжнева, «афіцыйны ўкраінскі правапіс у рэдакцыі 1928–1933 гг. «быў дакладным у тым, што тычыцца розных арфаграфічных пытанняў, аднак ён ствараў неапраўданыя цяжкасці, уводзячы неўласцівыя ўкраінскай мове правілы. Такія пункты гэтага правапісу, як уводзіны ў запіс іншамоўных слоў літары ґ для перадачы іншамоўнага g — усё гэта было нязвыклым для шырокіх мас украінскага народа, выклікала цяжкасці засваення ўкраінскага правапісу»

З'яўленне незалежнай Украіны стала пачаткам рэабілітацыі забароненай літары. У 1990-м годзе «Ґ» на радасць інтэлігенцыі вяртаюць у алфавіт. Аднак прыгоды літары на гэтым не скончыліся. Так атрымалася, што сёння, нягледзячы на афіцыйны статус, літара «Ґ» выкарыстоўваецца непаслядоўна. Шматлікія друкаваныя выданні яе ігнаруюць. Гэта выклікана тым, што, па-першае, у другой палове XX стагоддзя адпаведны гук часткова выйшаў з ужывання ў цэнтральнай Украіне і цалкам знік ва ўсходніх абласцях. У той жа час выданні Заходняй Украіны і дыяспары выкарыстоўваюць гэтую літару больш паслядоўна, што тлумачыцца галоўным чынам непасрэдным уплывам моўнага асяроддзя (ангельская, польская, нямецкая, венгерская, чэшская мовы), дзе існуе апазіцыя паміж выбухным і фрыкатыўным «Г». Не дзіўна, што хутка дылема — выкарыстоўваць ці не гэту літару — стала набываць палітычны падтэкст.

Цяперашні юбілей пастановы пра забарону «Ґ» даў новы штуршок для дэбатаў пра ролю літары ва ўкраінскай мове, гісторыі і палітыцы.

Выданне «Дзеркало тижня» піша: «1933 год. Украінскія гарады і сёлы стогнуць ад Галадамору. Але савецкай імперыі мала абяскровіць цела Украіны…першай абсурднай ахвярай молаха імперскай машыны становіцца літара «Ґ», якую «па ідэалагічных меркаваннях» на доўгія дзесяцігоддзі выкідваюць з украінскага правапісу».

У апанентаў з левага лагера такія тэзісы выклікаюць смех. Маўляў, каб вінаваціць бальшавікоў у знішчэнні ўкраінскай мовы, нацыянал-дэмакратам трэба спачатку дабіцца тых жа поспехаў у сферы ўкраінізацыі. Прычым эталонам тут з'яўляецца ніхто іншы, як сталінскі кат Лазар Кагановіч. Ён падчас знаходжання на пасадзе першага сакратара Кампартыі Украіны (1925-1930) стаў галоўным праваднікам «украінізацыі». Адразу пасля яго прызначэння была прынята пастанова пра тэрміновы пераход усёй дзяржаўнай вертыкалі на ўкраінскае справаводства. Тагачасныя статыстычныя звесткі пра ўкраінізацыю школ, друку і г.д. проста шакуюць. Так, украінізацыя прэсы дасягнула ў 1930 годзе 68,8%, а ў 1932-м гэта лічба паднялася да 87,5%. Да 1930 г. па ўсёй Украіне засталося толькі тры буйныя газеты на рускай мове (у Адэсе, Данецку і Марыупалі).

Адсюль тэзіс пра тое, што бальшавікі адмовіліся ад «Ґ» (якая на той час ужывалася ў некалькіх дзясятках слоў) для таго, каб папулізаваць украінскую мову сярод рускамоўных украінцаў, якія баяліся незразумелых літар.

Дадатковым фактарам для актуалізацыі цяперашніх дэбатаў сталі працэсы карэкцыроўкі алфавітаў у некаторых краінах. Так, рускія адмовіліся ад Ё, а немцы намагаюцца не выкарыстоўваць аж тры літары. «Наколькі неабходна літара з пункту гледжання мовазнаўства, судзіць не бяруся, але вось з графікай рэабілітаванай літары зусім не згодзен. Першым чынам, маленькая надрадковая закаручка дрэнна бачная ў тэксце. У паліграфіі шрыфты з падобнымі выноснымі элементамі ствараюць дадатковыя цяжкасці», — піша адзін з працаўнікаў «Ґ».

У сваю чаргу нацыяналісты ўспрымаюць падобныя заявы як замах на частку нацыянальнага «эга». «Адмова ад ужывання літары «Ґ» выклікала разбурэнне фаналагічнай сістэмы ўкраінскай мовы, якая фармавалася стагоддзямі, што можа прывесці да знішчэння аднаго з элементаў мілагучнасці нашай мовы і аднаго з самых характэрных знакаў нашай графікі», — піша адзін з чальцоў Акадэміі навук Украіны.

Пакуль што ясна адно — «ґ» дакладна застанецца ў алфавіце. Аднак дэбаты вакол яе магчымай ліквідацыі фактычна адцягваюць увагу ад галоўнага даўняга патрабавання ўкраінскіх філолагаў — перавесці цяперашні ўкраінскі правапіс цалкам на прынцыпы «скрипниківки» . Гэта сапраўды змяніла б моўную сітуацыю. У такім разе ва ўкраінскай мове з'явіліся б такія словы як «етер» (эфір), «бльок» (блок). Варта заўважыць, што шмат хто абвінавачу групу Скрыпніка ў тым, што ён выкарыстаў падчас складання правапісу працы стваральніка беларускай граматыкі Браніслава Тарашкевіча.

Але дэбаты вакол юбілею забароны «Ґ» толькі пачынаюцца, і іх вынікі прадказаць цяжка.

ДЫСКУСІЯ

# ЯКІМІ БУДУЦЬ ШАТЛАНДСКІЯ ГРОШЫ?

Алег НОВІКАЎ

**Хаця рэферэндум аб незалежнасці Шатландыі адбудзецца толькі ў наступным годзе, а яго вынікі даволі цьмяныя, эканамісты ахвотна спрачаюцца наконт таго, якімі будуць новыя шатландскія грошы.**




Можна адзначыць чатыры падыходы да гэтай праблемы: 1) далучыцца да зоны еўра, 2) захаваць брытанскі фунт стэрлінгаў 3) прывязаць шатландскі фунт да брытанскага 4) заснаваць уласны Манетны двор.

Усе варыянты маюць як моцныя, так і слабыя бакі. Што тычыцца ідэі з уваходам у зону еўра, то безумоўныя мінусы звязаныя з цяперашнім крызісам у еўразоне і тымі мерамі, якімі яго спрабуюць вырашыць. Апытанні сведчаць, што шатландцы сапраўды баяцца такой перспектывы, магчыма таму, што сацыяльныя службы ў Шатландыі традыцыйна вельмі моцныя.

Праўда, ніхто Шатландыю так хутка ў зону еўра не запросіць. Механізм далучэння да еўра вельмі доўгі, а самі ўмовы прыёму хутчэй за ўсё пасля гісторыі з Грэцыяй і Іспаніяй будуць перагледжаныя. Таму нейкі эрзац еўра (калі Эдынбург усё ж захоча менавіта гэтую валюту) на першым этапе ў незалежнай Шатландыі ў любым выпадку спатрэбіцца.

Першае, што прыходзіць на думку, адрадзіць грошы, якія чаканілі шатландскія каралі да 1708 года, калі быў зачынены Шатландскі манетны двор пасля Уніі з Англіяй. Першыя шатландскія грошы з'явіліся пры каралі Давідзе (1124–1153). З ростам уплыву Англіі на ўнутраную шатландскую палітыку, грошы пачалі называць фунты.

Хаця ідэя вяртання да сваіх грошаў не мае стопрацэнтнай падтрымкі. Ёсць заклікі і пасля 2014 года выкарыстоўваць брытанскія банкноты. Гэта дазволіць новай дзяржаве як мінімум не дапусціць на пераходным этапе панікі сярод насельніцтва і падзення бізнес-актыўнасці. Такая формула да душы Алексу Салманду, лідару партыі шатландскіх нацыяналістаў (SNP), які заварыў кашу з плебісцытам. Хаця Салманд і заўзяты нацыяналіст, аднак ён лічыць, што шатландскімі грашыма маюць кіраваць ненавісныя каланізатары. Але яго пазіцыю падзяляюць не ўсе сябры SNP, якая ў сваёй прапагандзе ахвотна падкрэслівае, што нацыянальны Банк Англіі не ўлічвае інтарэсаў Шатландыі.

Таму рэалізацыя варыянту 2 лагічна патрабуе рэформы структуры кіравання нацыянальнага Банка Англіі — допуск шатландцаў у адміністрацыю банка. Дарэчы, на думку прэсы, такі фокус можа зацікавіць ірландцаў, якім несалодка з-за крызісу еўра. Бышцам яны могуць у такім разе таксама прыняць брытанскі фунт. Дадатковы бонус — Эдынбург і Дублін як канцэсіянеры змогуць карыстацца рэсурсамі Банка Англіі.

Аднак самі англічане, здаецца, не ў захапленні ад таго, што замежны ўрад будзе вызначаць банкаўскія стаўкі ў іх на радзіме. Акрамя таго шматлікія аналітыкі прымаюць стаўкі на тое, што фармаванне шатландскага рынку не абыдзецца без рэцэсіі. Тое, што ў крызіснай Шатландыі будзе хадзіць брытанскі фунт, стопрацэнтна выклікае няўпэўненасць на грашовых рынках ў самой Англіі. Таксама не зразумела, як такая мадэль агульнай валюты паўплывае на перспектывы ўваходу Шатландыі ў склад ЕС, статутныя дакументы якога патрабуюць ад краіны-кандыдата мець Нацыянальны банк.

Наступная прапанова (варыянт 3) — прывязаць шатландскі фунт да брытанскага з разліку адзін да аднаго. Дарэчы, падобную палітыку праводзіла Ірландыя пасля таго, як у 1922 годзе перастала быць брытанскім дамініёнам. Папулярны тэзіс пра тое, што гэта мера дазволіла ірландцам стабілізаваць эканоміку пасля грамадзянскай вайны. Закавыка ў тым, як трымаць такі курс ва ўмовах цяперашняй гаспадаркі, для якой характэрная шалёная флексібільнасць капіталаў? Кан'юнктура на адным з рынкаў можа выклікаць імклівы прыток капіталаў ад суседзяў, рост попыту на лакальную валюту, дадатковую эмісію, працэс інфляцыі і г.д. У выніку ўтрымаць жорсткае адзінства курсаў брытанскага і шатландскага фунтаў будзе цяжка.

Такім чынам, сам сабой напрошваецца апошні варыянт — заснаванне ў Шатландыі незалежнага ад Лондана Манетнага двара. Без такога інстытута, на думку нацыяналістаў, незалежнасць будзе ілюзорнай. Тым больш, свае грошы — гэта добры інструмент уплыву на макраэканамічны працэс. Менавіта гэтага інструмента, на думку шмат каго, зараз не хапае ірландцам, якія пасля ўваходу ў Еўразону цалкам падпарадкавалі свае фінансы Цэнтрабанку ЕС.

Што чакае шатландскі фунт, калі ён адправіцца ў вольнае плаванне? Каб адказаць на гэта пытанне эканамісты заклікаюць паглядзець не на досвед Швецыі або Польшчы, якія маюць сваю валюту, а на ўрок краін СНД. Нават дасюль сярод заходніх бюргераў існуюць падазрэнні наконт стабільнасці расійскага рубля (нягледзячы на тое, што Расія — уладар каласальных натуральных багаццяў). Што ўжо казаць пра валюту такой маленькай краіны як Шатландыя, дзе толькі дзве развітыя індустрыяльныя галіны — вытворчасць віскі і здабыча нафты.

Не выклікае аптымізму і наступная статыстыка. у Шатландыі найменш прыватных бізнесменаў на душу насельніцтва, чым у Аб'яднаным Каралеўстве (672 бізнесмены на 10тысяч чалавек, у той час як ў Англіі — 922). Негатыўным момантам таксама можа быць цяперашні доўг шатландскага ўраду, які складае паўтара мільярда долараў. Ён дастанецца ўраду незалежнай Шатландыі, які не зможа разлічваць на субсідыі з Лондана, як цяпер.

Відавочна, што з улікам такіх абставін нованароджанаму шатландскаму фунту спатрэбіцца час, каб заваяваць да сябе давер на фінансавых рынках і сярод інвестараў. Праўда, псіхалогію бізнесменаў і спажыўцоў можна падмануць шляхам камбінацыі варыянтаў 3 і 4. спачатку трымаць шатландскі фунт прывязаным да брытанскага, а пасля паступова аслабіць прывязку.

Пакуль што ніводны з агучаных варыянтаў не зняты з тэмаў дыскусій эканамістаў. Логіка падказвае, што спачатку трэба было б дачакацца вынікаў рэферэндуму. Пакуль што за суверэнітэт Шатландыі выступае толькі 34 працэнты насельніцтва краю, а супраць — 47 працэнтаў (вынікі апытання 27 студзеня 2013 года). Але яшчэ 19 працэнтаў — не вызначыліся. Так што інтрыга, а з ёй і верагоднасць з'яўлення на свет новай шатландскай валюты, захоўваецца.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ІЛЬХАМ АЛІЕЎ



Цяпер прыкметай лаяльнасці грамадзяніна Азербайджана рэжыму Аліева стаў абавязковы ўдзел у спам-атаках на варожыя сайты. Падставай для такога сцвярджэння стала гісторыя, якая адбылася з Цэнтрам даследавання карупцыі і арганізаванай злачыннасці, які знаходзіцца ў Сараеве (Боснія). Арганізацыя праводзіць маніторынг карупцыі ў свеце і кожны год выдае анты-прэмію «лепшаму» карупцыянеру. У 2012 годзе такі прыз атрымаў Ільхам Аліеў. Рэакцыяй на ўзнагароду стала нябачаная спам-атака на паштовую скрыню Цэнтра. Сюды прыйшло каля 4000 лістоў. Амаль ва ўсіх лістах выказваецца пратэст супраць намінацыі Аліева. Тэкст напісаны па шаблоне, і гэта сведчыць, што кампанія арганізаваная ўладамі, аднак пры гэтым толькі 10 працэнтаў лістоў, на думку спецыялістаў, даслана з аўтаматычных сэрвераў. Атрымліваецца, што большасць лістоў пратэсту адпраўленая жывымі людзьмі. Пазней з'явілася інфармацыя, што Міністэрства адукацыі Азербайджана ў адміністрацыйным парадку запатрабавала ад студэнтаў некаторых бакінскіх ВНУ напісаць лісты на адрас Цэнтра і выдала ім патрэбны тэкст. Цяпер усе думаюць, ці пачнуць іншыя аўтарытарныя лідары краін СНД таксама выкарыстоўваць азербайджанскія напрацоўкі.

### ТЭРЭЗА ШВАРЦЭНБЕРГ



Тэрэза — жонка Карэла Шварцэнберга, кандыдата на пасаду прэзідэнта Чэхіі. Як вядома, Карэл Шварцэнберг прайграў сацыял-дэмакрату Мілашу Зэману. Аднак ён можа кампенсаваць правал тым фактам, што праціўнікі вялі супраць яго брудную гульню, а менавіта выкарысталі асобу жонкі Тэрэзы. Справа ў тым, што спадарыня Шварцэнберг не размаўляе пачэшску, што на думку праціўнікаў яе мужа, не пасуе крытэрыям першай дамы Чэшскай рэспублікі. Увогуле Тэрэза паходзіць з Аўстрыі, менавіта туды пасля вайны ўцякла ад камуністаў сям'я Шварцэнбергаў. У Аўстрыі яна і пазнаёмілася з будучым мужам. Кампраметуе Тэрэзу і той факт, што яе бацька быў пераканаman нацыстам і з 1930 года ўваходзіў у склад аўстрыйскай секцыі NSDAP. Усе гэтыя абставіны ахвотна смакавала чэшская прэса, а некаторыя культурныя дзеячы нават публічна выступілі супраць таго, каб аўстрыячка сядзела ў прэзідэнцкім палацы. З улікам таго, што адной з цэнтральных тэм мінулых выбараў было стаўленне кандыдатаў да дэкрэтаў прэзідэнта Бенеша, паводле якіх этнічных немцаў пасля вайны дэпартавалі з Чэхаславакіі, можна казаць, што фактар Тэрэзы сапраўды паўплываў на фінальныя лічбы. Праўда, з іншага боку, вынік у Шварцэнберга дастаткова прыстойны (45 працэнтаў). Гэта сведчыць пра тое, што антынямецкія настроі ўжо не так папулярныя ў Чэхіі.

### ІВАН БАДЗЮЛ



Былы першы сакратар Кампартыі Малдаўскай ССР, які кіраваў рэспублікай з 1961-га па 1980 год, памёр у Маскве 27 студзеня ва ўзросце 95 гадоў, што стала галоўнай падзеяй у Малдове, дзе даўно існуе яго культ. З Бадзюлам звязваюць галоўныя дасягненні Малдоўскай ССР — станаўленне і развіццё сучаснай малдаўскай прамысловасці, першым чынам, такіх новых для Малдовы галін, як машынабудаванне, прыборабудаванне, электроніка, а таксама мадэрнізацыя прадпрыемстваў мэблевай і лёгкай прамысловасці. Падчас Бадзюла ў Малдове існавалі самыя вялікія ў Еўропе фруктовыя сады. Аднак ёсць і альтэрнатыўны пункт гледжання. Хуткі кар'ерны рост Бадзюла звязваюць з яго блізкім знаёмствам з Брэжневым, які ў 1950–1952 гадах быў 1-м сакратаром Кампартыі Малдавіі. Ходзяць чуткі, што Бадзюл вельмі дапамог Брэжневу, ажаніўшыся з жанчынай, якая зацяжарыла ад «любімага Леаніда Ільліча». Таксама варта згадаць, што пры Бадзюлу з Кішынёва збег, напэўна, самы вядомы малдаўскі савецкі пісьменнік Іон Друцэ, якога на радзіме Бадзюл паабяцаў павесіць на першым ліхтары. Друцэ і іншыя прадстаўнікі інтэлігенцыі абвінавацілі Бадзюла ў русіфікацыі. Калі ў 2003 годзе камуніст Уладзімір Варонін узнагародзіў Бадзюла вышэйшай малдаўскай узнагародай — Ордэнам Рэспублікі, восем ранейшых лаўрэатаў адмовіліся ад ордэна.

▸ 150 ГОД ПАЎСТАННЯ КАЛІНОЎСКАГА

# ГОНАР, ПАТРЫЯТЫЗМ І ЛЮДСКАЯ ТРАГЕДЫЯ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У гэтым годзе спаўняецца 150 гадоў знакамітаму Паўстанню Кастуся Каліноўскага. На жаль Беларусь не адназначна рэагуе на гэтую падзею, а між тым, менавіта гэтае паўстанне адыграла важнейшую ролю ў развіцці нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, абудзіўшы жыхароў колішняга Вялікага Княства Літоўскага ад летаргічнага сну, у які іх пагрузіла Расійская імперыя. Паўстанне 1863–1864 гадоў стала своеасаблівай нацыянальна-вызваленчай рэвалюцыяй супраць самадзяржаўя, дэспатызму і русіфікацыі.**

Здаецца, гісторыя паўстання Кастуся Каліноўскага даследавана даволі глыбока і ўсебакова. Аднак людская памяць захоўвае яшчэ шмат цікавых і да сённяшняга дня невядомых гістарычных сюжэтаў.

Адзін з іх звязаны з гісторыяй шляхецкага роду Плюта з Гродзенскай губерні. Яго прадстаўнікі былі сапраўднымі патрыётамі. Яны аднымі з першых падтрымалі паўстанне Кастуся Каліноўскага і, стварыўшы атрад, мужна змагаліся супраць царскіх акупантаў.

Нагадаю, галоўнай мэтай паўстанцаў было адраджэнне незалежнасці Рэчы Паспалітай у межах 1772 года. У 1862 годзе ў Вільні быў арганізаваны Літоўскі правінцыяльны камітэт (ЛПК), які і пачаў рыхтаваць узброенае выступленне. На пачатку лютага 1863 года ЛПК звярнуўся да насельніцтва літоўска-беларускага краю з просьбай падтрымаць паўстанне. Адным з першых гэты народны ўздым падтрымаў багаты шляхціц з Гродзенскай губерні Станіслаў Плюта.

У Беластоку ён сфарміраваў атрад са сваіх сялян і мясцовай шляхты і ўдзельнічаў у некалькіх паспяховых аперацыях супраць царскіх войскаў. Трэба таксама адзначыць, што разам з бацькам ваяваў і сын Плюты — Кастусь. Пад Сямятычамі паўстанцкі аддзел Плюты разам з іншымі паўстанцкімі часткамі супрацьстаяў 7 ротам царскіх войскаў з 4 гарматамі. Тады паўстанцы прымусілі рускія войскі адступіць, пры гэтым ім удалося захапіць некалькі гармат і іншыя трафеі.

Паўстанцкі аддзел пад камандаваннем Станіслава Плюты ўдзельнічаў і ў іншых сутыкненнях з царскімі войскамі. У адным з баёў атрад быў атакаваны казакамі і амаль увесь загінуў. Рускія захапілі ў палон параненага шляхціца і яго сына. Абодва апынуліся ў Гродзенскай турме.

У той час у гэты астрог трапіла шмат знакамітых ураджэнцаў беларускай зямлі. За кратамі ў Гродна знаходзіўся Напалеон Орда, якога арыштавалі па абвінавачванні, што ён удзельнічаў у антыўрадавых выступленнях і падтрымліваў «польскіх злачынцаў». Акрамя гэтага ў Гродзенскім астрозе тады апынуўся і муж Элізы Ажэшкі Пётр, якога абвінавацілі ў дапамозе аднаму з кіраўнікоў паўстання ў гістарычнай Літве Рамуальду Траўгуту.

Пра тое, што бацька і сын Плюты трапілі ў рускую вязніцу хутка даведаліся іх блізкія. Малодшая дачка Станіслава Соф'я вырашыла пайсці на беспрэцэдэнтны крок. Яна накіравалася ў Вільню, каб сустрэцца з генерал-губернатарам Міхаілам Мураўёвым і папрасіць таго аб памілаванні для бацькі і брата.

І дзяўчыне ўдалося трапіць на аўдыенцыю да «Вешальніка». Яна расказала губернатару пра тое, як любіць бацьку і брата, спрабавала растлумачыць, чаму тыя выступілі супраць Расіі.

Мураўёў глядзеў на дзяўчыну з ухмылкай і рабіў выгляд, што слухае. Аднак пасля таго, як Соф'я скончыла, губернатар падышоў да яе і ціха сказаў: «У вас, спадарыня, ёсць адна магчымасць выратаваць сваіх блізкіх. Я мяняю ваша каханне на жыццё гэтых дурных «палякаў».

Соф'я глядзела на «Вешальніка» як на ўвасабленне д'ябла. Яна моўчкі павярнулася і пайшла да дзвярэй. Па сямейных паданнях, Мураўёў прамовіў ёй услед: «Зараз вы падпісалі сваім блізкім смяротны прысуд». Жанчына потым усё жыццё будзе ўспамінаць тыя словы, сказаныя крывавым катам паўстання. Мураўёў паклаў перад дзяўчынай на вагі яе гонар і жыццё самых блізкіх для яе людзей. І яна выбрала першае. Праз некалькі дзён гродзенскі шляхціц, удзельнік паўстання Кастуся Каліноўскага, Станіслаў Плюта быў павешаны.

Аднак брату Соф'і Кастусю, калі так можна казаць, пашчасціла. Яго прысудзілі да высылкі ў глыбінныя губерні Расійскай імперыі. Шматлікія даследчыкі, аднак, лічаць, што гэтае «выратаванне» на самой справе было жудаснай карай для асуджаных. У судовых дакументах, якія маюць дачыненне да пакарання паўстанцаў Каліноўскага, досыць часта фігуруе фармулёўка «выслаць у аддаленыя губерні». Паводле афіцыйных звестак расійскіх улад, пасля падаўлення паўстання па прысудах ваенных судоў было выслана на катаржныя работы з пазбаўленнем правоў стану і канфіскацыяй маёмасці 972 чалавекі, 345 чалавек было адпраўлена на вайсковую службу шараговымі салдатамі, 864 — адпраўленыя ў арыштанцкія роты, 4096 (каля 800 сямей) — высланыя «на водворение на казённых землях внутри империи», нарэшце паводле пастаноў судоў 7531 чалавек быў высланы на жыхарства ва ўнутраныя губерні імперыі. Апроч таго, з месцаў свайго жыхарства былі выселены 629 сямей засцянковай шляхты. Такім чынам, агульная колькасць высланых з родных мясцінаў паўстанцаў сягала прыблізна 10 тыс. чалавек. Сярод іх большасць (57%) складалі жыхары Паўночна-Заходняга краю Расійскай імперыі.


Соф'я Плюто з мужам у Пецярбурзе


Мураўёў назірае як вешаюць паўстанцаў


Паўстанцы К.Каліноўскага


Міхаіл Мураўёў-вешальнік

Беларускі даследчык Сяргей Токць адзначае, што высылку з родных мясцінаў у аддаленыя губерні як сродак пакарання паўстанцаў і іх прыхільнікаў улады сталі выкарыстоўваць ужо вясной 1863 года. Напрыклад, з Гродзенскай губерні ад пачатку паўстання да жніўня 1863 года былі высланыя 116 чалавек. У большасці сваёй гэта былі асобы, якія лічыліся «нядобранадзейнымі». Праўда, з іх ліку ў Сібір трапілі нямногія, паколькі большая частка высылалася ў цэнтральныя губерні імперыі і на Урал.

Летам 1863 года ўлады ўпершыню выкарысталі такі спосаб барацьбы з паўстанцамі як высылка жыхароў цэлага паселішча разам з жанчынамі і дзецьмі. Па прапанове Міхаіла Мураўёва-«Вешальніка» ад 24 ліпеня 1863 года былі высланы «на водворение» жыхары шляхецкай ваколіцы Шчукі ў Гродзенскім павеце. 30 верасня 1863 года гарадзенскі губернатар атрымаў загад ад віленскага генерал-губернатара Мураўёва «аб неадкладным высяленні жыхароў ваколіцы Лукавіца». У дакуменце, у прыватнасці, прапаноўвалася выслаць 37 сямей (каля 120 чалавек) разам з малымі і старымі ў Самарскую, Кастрамскую і Астраханскую губерні.

Сын гродзенскага паўстанца Кастусь Плюта быў сасланы ў Томскую губерню, вёску Марыінск. Варта падкрэсліць, што да сярэдзіны 1867 год ў розныя куткі Томскай губерні было выслана каля 5 тысяч паўстанцаў з тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай. Такая высылка шляхты Беларусі, Польшчы і Літвы рабілася дзеля паступовай «дэградацыі» гэтага саслоўя, таму што былых паўстанцаў залічвалі ў катэгорыю «государевых крестьян». У архіўных дакументах 1868 года, у прыватнасці, пазначалася, што Кастусь Плюта, шляхціц Гродзенскай губерні, 26 гадоў, не жанаты, сасланы без захавання маёмасных правоў. На радзіму Кастусь вярнуўся толькі напрыканцы жыцця.

Соф'я Плюта праз два гады пасля паўстання з'ехала ў Пецярбург і там выйшла замуж за шляхціца Андрэя Меера. Пазней сям'я вярнулася ў Паўночна-Заходні край Расійскай імперыі. Па ўспамінах родных Соф'я Станіславаўна часта ўзгадвала сустрэчу з Мураўёвым-вешальнікам і дакарала сябе за тое, што не ўратавала брата і бацьку.

Памяць пра гэтых людзей, сапраўдных змагароў за незалежнасць Рэчы Паспалітай і гістарычнай Літвы, жыве і сёння. Тыя, хто падтрымаў Кастуся Каліноўскага ў 1863 годзе, былі сапраўднымі патрыётамі, і іх жыццё ўпісана залатымі літарамі ў летапіс гісторыі Беларусі.

УСПАМІНЫ

# СВАЁЮ ПУЦЯВІНАЙ

Арсень ЛІС

Працяг. Пачатак у №3

**У сваім расповедзе, успамінах я так далёка адышоў ад першага, юнацкіх часоў, пошуку працы, што ёсць рызыка страціць галоўную сюжэтную нітку, забыцца на асноўную задачу аповеду.**

Уладкавацца на службу нарэшце мне хутка дапамагла нястрачаная сувязь з аднакурснікамі. Ужо і не ўспомніць даклада, як Валодзя Лазоўскі, які пасля размеркавання выпускнікоў адразу паехаў настаўнічаць у Алашкі, пад Шаркоўшчынай, паведаміў мне — у Шаркоўшчынскім РАНА ад пачатку навучальнага года пустуе месца загадчыка педкабінета. Тут я ўжо не задумваўся, што педагагічнага стажу ў мяне роўна нуль. Набліжаўся Новы 1957 год, і я, стэлефанаваўся з загадчыкам РАНА Феліксам Казіміравічам Бабскім, а назаўтра ж прыскочыў у Шаркоўшчыну. Мястэчка было тады раённым цэнтрам з наборам адпаведных яго статусу ўстаноў. Раённы аддзел асветы мясціўся на ўскраіне ў драўляным мястэчковым доме, пабудаваным за польскім часам.

Супрацоўнікі РАНА сустрэлі прыязна, дапамаглі знайсці кватэру, прапанавалі грашовую падтрымку да першай зарплаты.

Жыццё пацякло ў спакойным рэчышчы. А дзявятай я быў звычайна ў педкабінеце, дзе мог уаўтаноміцца на цэлы дзень. Зімой яшчэ не было выезду ў школы, і дзень мой праходзіў у малым клопаце. часам настукваў на друкарцы адну-другую паперчыну, якія скіроўваліся, так бы мовіць, па інстанцыі. Вечарамі я заставаўся ў большым пакоі, дзе за шклом у шафах вышахаваліся тамы «Большой Советской Энциклопедии». Брыў вачыма і ў думках па краінах ды персаналіях, лапідарна пададзеных у самавітым выданні.

Шэф у кагосьці з супрацоўнікаў спытаўся, чаму навічок вечаруе пасля працы, чым ён там займаецца, але мне заўвагі не зрабіў. Праўда, неўзабаве, відаць, распарадзіўся, каб дырэктар шаркоўшчынскай сярэдняй школы вылучыў мне некалькі гадзін урокаў па беларускай літаратуры ў 8-ым дзённай і ў 9-ым і 10-ым класах вячэрняй школы.

Не запомніўся мне самому мой першы ўрок. Не рабіў строгага плана выкладу, спадзяваўся на імправізацыю. Тэксты, літаратуру ў асобах Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча ў асноўным ведаў няблага, бо любіў. Зрэшты, яны мяне і вывелі на беларускую філалогію як спецыяльнасць. У літаратуразнаўчым, тэарэтычным плане быў падкаваны слаба. Па-першае, літаратуразнаўства беларускае на пачатак 50-х гадоў мінулага стагоддзя яшчэ не адышло ад пагрому, незлічоных страт 30-х гадоў, як і ўся беларуская гуманітарная навука і культура.

У мяне была толькі адна манаграфія Ю.С. Пшыркова пра



Арсень Ліс. 1960-ыя

творчасць Якуба Коласа. Пачуць лекцыі самога Пшыркова не ўдалося. чытаны ім курс літаратуры ў нас выкладалі іншыя педагогі. Лекцыі, у прынцыпе паважанага, Міхася Марчанкі я неяк, сорам прызнацца, злегкаважыў і не ўсе наведваў. Дазволіў сабе завядзёнку апускаць некаторыя лекцыі дзеля працы ў бібліятэцы.

На адзін з маіх урокаў у дзённай школе зазірнуў дырэктар Мішкуцёнак, чалавек сталы і, пэўна, дасведчаны ў педагогіцы. Пасля ягоных адведзінаў мой ранаўскі шэф спытаўся ў мяне: «Што вы там гаварылі на ўроку? Дырэктар быў у недаўменні...» А казаў я вучням пра рэпрэсаваных і ўжо на той час у большыні сваёй рэабілітаваных пісьменніках, — сведчыў, якая багатая і вялікая ў нас літаратура. Фелікс Казіміравіч толькі ўсміхнуўся сваёй характэрнай усмешкай і нічога не сказаў. Відаць, палічыў ідэалагічную насцярогу дырэктара за няварту ўвагі.

З вучнямі дзённага навучання ў мяне склаліся роўныя, мяркую, прыязныя адносіны. Праўда, на адным з першых урокаў яны спрабавалі, і пазней самі аб тым прызналіся, арганізаваць неапранаму педагогу тэст на вытрымку. Як ад'язджаў вясною з Шаркоўшчыны, даведаліся і грамадой прыйшлі на станцыю праводзіць. А пазней, як ужо працаваў у Мінску, аднойчы прыслалі па радыё музычнае прывітанне. Усё ж неяк запомніўся дзецям.

Не сказаць, каб не склаліся адносіны з вячэрнікамі. У вячэрняй школе ў той час дабіралі веды на атэстат сталасці людзі, якім тое зрабіць у свой час перашкодзіла вайна. Акрамя некалькіх рабочых хлопцаў ды дзяўчат былі той-сёй і са службоўцаў. Запомніўся інструктар райкама камсамола Тарбенка. У абсалютнай большыні вучняў былі надта сціплыя веды па беларускай літаратуры. З яўна завышаных адзнак, выстаўленых вячэрнікам маёй папярэдніцай, настаўніцай Гатоўскай, давялося знізіць іх на два парадкі.

Мае падапечныя, да жорсткасці (нетактоўнасці?) маладога педагога паставіліся надзіва спакойна. Прынамсі, ніяк не выказаліся ўголас. Хіба за вочы. Ва ўсякім разе адносіны ў нас засталіся нармальныя. Што ж, людзі дарослыя і адсюль адпаведнае разуменне.

А ўвогуле, як пагляджу з аддалі часу на тыя даўнія свае пачаткі, дык знаходжу і тое, што былі нейкія праявы ва ўласным характары, якія ў прынцыпе лічу сабе неўласцівымі.

Напрыклад, чаго раптам неўзабаве па прыездзе ў гарадскі пасёлак закарцела выступіць у клубе з публічнай лекцыяй? Не лічыў сябе здольным прамаўляць перад сабранымі, не меў на тое жаднай практыкі. Не сказаць, каб хацелася проста паказаць сябе. глядзіце, які разумны, цікавы прыехаў да вас. Не здаў сабе справы з таго, што людзям будзе цікава тэма майго выступу. Чамусьці проста захацелася расказаць пра жыццё і паэзію беларускага класіка. Пэўна, я быў мала перакана́ўчым у тым сваім выступленні, але ж палез на трыбуну.

А яшчэ было на голым месцы, што называецца, заканфліктаваў з сакратаром райкама камсамола Лазовікам. Наадрэз адмовіўся ісці ў актуальныя па тым часе дружыннікі. Як я, мауляў, педагог, на вачах вучняў буду ўціхамірваць, барукацца з п'янымі парушальнікамі парадку ў клубе ці на вуліцы?

На настаўніцкай канферэнцыі Лазовік асудзіў няправільныя паводзіны камсамольца Ліса. Педагагічная ж моладзь палічыла маё непадпарадкаванне сакратару за выклік і смеласць. Я ж у тым эпізодзе акрамя звычайнага парадку рэчаў, пэўнай сваёй рацыі нічога іншага не бачыў.



Арсень Ліс падчас экспедыцыі ў Горках

***

З вясной маё жыццё ў Шаркоўшчыне стала цікавейшым. Я збольшага здолеў агледзецца, зарыентавацца ў тутэйшых рэаліях. Не тое, што кідалася ў вочы, але проста было заўважна. педагагічны корпус у раёне, ды не толькі ў Шаркоўшчынскім, а, мусіць, па ўсёй Заходняй Беларусі, укамплектоўваўся ўраджэнцамі з Усходу, Савецкай Беларусі і Расіі.

Успаміналі, што шаркоўшчынскі РАНА да К.Ф. Бабскага ўзначальваў нехта Собалеў, былы партызан, выхадзец аж з Уралу. Казалі, яму моцна карцела было прыкрыць беларускія школы ўвогуле. мысліў таварыш Собалеў стратэгічна.

Успомнілася, што ў нашу Залескую сямігодку напрыканцы майго навучання ў ёй, зняўшы мясцовага, выпускніка Маладзечанскай семінарыі Івана Дудку, прыслалі дырэктарам Балаўнева. Новы дырэктар хадзіў у вайсковым афіцэрскім мундзіры. Такім і застаўся на памятку на здымку выпускнікоў Залескай сямігодкі 1947 года.

А загадчыкам смаргонскага РАНА ў нас адразу пасля вайны быў педагог з акружэнцаў, былы партызан, родам з Кубані Арэхаў. Гэты начальнік над школамі неяк асабліва застаўся ў памяці нашай радні. Мой хросны, за палякамі падпольшчык, паспяховы арганізатар камуністычных ячэек, за што зведаў арышты і турмы, удзельнік апошняй вайны, чалавек майстравіты, згадзіўся накрыць дах на Панізкай школе. А пры разліку за працу загадчык РАНА неяк умудрыўся скруціць з той аплатай. З падарваным у польскай турме ды ў акопах падчас вайны здароўем страхар Зміцер Шульжыцкі на той страсе празябіўся. Паміраючы нестарым, строга наказваў жонцы: «Матка, скажы сынам, што праўды няма на свеце. Чуеш? Скажаш?»... Ці не была тая крыўда на партызана-асветніка апошняй кропляй цярпення простага чалавека пры ацэнцы ім, у цэлым, улады, за якую ахвярна змагаўся цягам жыцця?

Вясной адкрылася магчымасць пазнаёміцца з цэлым раёнам, наведаць школы ў раённым маштабе. У складзе калектыву РАНА было два інспектары. старэйшая русавед Левіна, родам з Полацку, і малодшая, матэматычка па спецыяльнасці Тамара Чмаркова, смалянка. Пры інспектаванні школ загадчык далучаў да іх і мяне, чалавека з абсалютна зялёным паняццем аб педагогіцы. Мяне прызначылі прыглядаць за выкладаннем замежнай, як правіла, нямецкай, і беларускай моваў. За мной жа пакінулі прэрагатыву апекі над выкладаннем гісторыі. Калі наведвалі ўрокі ў сямігодках, абмяркоўвалі, збольшага аналізавалі іх у настаўніцкіх калектывах. Я ж у некаторых выпадках спрабаваў зарыентаваць настаўніка-гісторыка на нейкія адметныя падзеі, постаці айчыннай гісторыі, якія практычна ў школьных праграмах абыходзіліся маўчаннем. Гісторыя Беларусі ў школах БССР як асобны прадмет не выкладалася. Некаторыя звесткі з гісторыі беларускага народа ўкрапваліся ў агульны курс «Гісторыі СССР».

Пры РАНА меўся транспарт, праўда, гужавы. Быў гэта проста воз, крышку падштукаваны пад брычку. Мы ўтраіх — жанчыны пасярэдзіне, я ў перадку — усаджваліся на ім і адпраўляліся ў вандроўку. Часам яна была даволі працяглай, і спадарыня Левіна, пульхнаватая постаццю, зычліва-ўсмешлівая, каб не здарожыліся, забаўляла кампанію расповедам якога-небудзь старога французскага ці англійскага рамана. Мела добрую памяць на сюжэтныя павароты, шматлікія гумарыстычныя эпізоды, дэталі. Прыехаўшы ў школу, мы ішлі на ўрокі або ўсе разам, або паасобку, паводле падзеленых загадзя міжсобку прадметаў. Аднойчы сядзім на ўроку ў класе пятым. Маладая настаўніца нармальна вядзе ўрок па рускай славеснасці і раптам перапыняе яго пытаннем: «Стасік, што ты яму сказаў?» Падняты для адказу хлопчык маўчыць. Пытанне паўтараецца ўжо крыху павышаным тонам. Зноў маўчанне. Тады пытанне настаўніцы пераадрасоўваецца суседу: «Чэсік, што ён табе сказаў?» Чэсік не прымушае сябе доўга чакаць, адказвае з уласцівай тутэйшай вымове расцягнутай інтанацыяй, падвышанай у канцы сказа: «А ён сказаў, што Георгій Беніцыянавіч спіць...», «Кто спит, где спит?» — спалошана азваўся дырэктар, які сядзеў ззаду за намі, на апошняй парце. Выйшаў такі маленькі выдатак стараннасці педагога ў клопаце пра дысцыпліну на ўроку. Правяральшчыкі ціхенька рагатнулі таксама.

А ўвогуле яны, сельскія дзеці, вельмі мілыя ў сваёй непасрэднасці, шчырасці. Апранутыя на той час сціпла, часам экзатычна, яны падкуплялі ўсмешкай добрых карых, шэрых, блакітных сваіх вачанят. Іх спеўная мова, яшчэ не зазнаўшы стандартызацыі, аказёньвання, наталяла слых лагодай, пяшчотай адвечнага матчынага слова.

Здаралася, у далёкую, закінутую ў міжлессі пачатковую школку мне даводзілася адпраўляцца аднаму. Тады сядлаў ранаўскага каня, ехаў верхам. У дарозе не спяшаўся. аглядаў незнаёмыя краявіды, слухаў веснавое птушынае шматгалоссе, часам зацягваў песню.

Школка-чатырохгодка, куды гэтым разам паслаў мяне загадчык на праверку, была далёкая, у самай глухамані, адарванасці ад свету. Размяшчалася наводшыбе ад дарогі і бліжэйшага селішча. Кіраўніца яе і выкладчыца ў адной асобе прыходзіла на працу з суседняй вёскі, недзе кіламетры за два адгэтуль. Жанчына сярэдняга веку, запрацаваная, што відаць было з першага погляду, сустрэла ранаўскага візіцёра спакойна-абыякава. Можа, я і разумеў, як няпроста настаўніцы дагледзець дзяцей, мужа, хатнюю гаспадарку, затым няблізка ляцець да сваёй школьнай працы і паспець у ёй усё належна зрабіць... Ды даклаў, як мне і было загадана Феліксам Казіміравічам, пра неправераныя сшыткі вучняў з хатнімі заданнямі, з памылкамі напісанае на школьнай дошцы, пра агульную апушчанасць у школцы.

Па маім вяртанні шэф сказаў, што настаўніца ўжо асабліва і не трымаецца за сваё месца. Але мне стала не па сабе, калі праз нейкі час, выйшаўшы ад загадчыка РАНА, яна змерала мяне жорсткім позіркам. Толькі што пераступіўшы парог педкабінета на той момант, я быў гатовы вярнуцца назад, зачыніцца ў ім.

Працяг будзе

МЕРКАВАННЕ

# ЯКАЯ МОВА Ў БЕЛАРУСКАЙ КІНАДУШЫ

Андрэй РАСІНСКІ

**У адным з нумароў «Новага часу» Віталь Воранаў папракнуў наша кіно за «неіснаванне», бо беларуская мова ў айчынных стужках амаль не гучыць.**

Хаця беларуская мова не толькі ў мастацтве, але і ў краіне пад ціскам, рызыкну заявіць: магчыма годнае беларускае кіно без аніводнага беларускага слова, і наадварот, беларускамоўнасць карціны — зусім не гарантыя яе чыннасці.

Кіно — гэта мастацтва, дзе мова — толькі адзін з элементаў складанага вобразу (у кіно — свая мова пластыкі, позірку, руху, шуму). І ёсць выпадкі, калі і беларуская гутарка звініць фальшам. У свой час Кузьма Чорны пісаў пра небеларускую мову ў беларускай літаратуры — кіно гэта таксама тычыцца.

Паказальная тут карціна «Свежына з салютам» Івана Паўлава. Фільм, зняты ў 2001 годзе, нават адмыслова рэкламаваўся, як «стужка на беларускай мове». Але камедыя пра вяскоўцаў, што прагнуць зарэзаць кабанчыка — толькі дазволенае этнаграфічнае гета заходнерускага краю. Мова — яшчэ адзін дамешак да экзатызмаў, якімі любуецца «культурны» каланізатар, у якога Масква ў галаве. З іншага боку, карціна Міхаіла Сегала «Франц+Паліна», дзе гучыць беларуская і нямецкая мова, гэта расейская стужка, заснаваная на годным беларускім матэрыяле (аповесці Алеся Адамовіча).



Кадр з фільму Андрэя Кудзіненкі «Акупацыя. Містэрыі», 2003

Пакуль айчынных — і, тым больш, замежных — стужак з беларускаю моваю вобмаль, папярэджанні Кузьмы Чорнага што да кіно, не самыя надзённыя — але калісьці пра іх варта будзе задумацца.

У фільме мусіць быць нешта, што робіць яго сваім, і гутарковая беларуская мова толькі адзін з магчымых, і не заўжды прысутных вынікаў гэтага загадкавага нешта.

Зірнем на італьянскія карціны 1960-х гадоў. Тады з'явіўся жанр, пагардліва названы крытыкамі «спагецці-вэстэрнамі». Дзікі Захад у гэтых карцінах здымаўся ў Італіі і Іспаніі, стваральнікі спачатку шыфраваліся за ангельскімі імёнамі; стужкі агучваліся на ангельскай.

Але гэта былі італьянскія стужкі. Спагецці-вэстэрны пераўзышлі амерыканскія арыгіналы. І не ў апошнюю чаргу гэта адбылося таму, што за іхняй спінай была італьянская культура. Тысячагоддзі багатага мастацтва падштурхоўвалі да самадастаткова-выкшталцоных кадраў. Веліч нямых пеплумаў — стужак на антычную тэму, імі праславілася Італія, — адбівалася ўрачыстымі постацямі аскетычных герояў. Перастрэлкі ў салунах гучалі як опера, а Эніа Марыконэ станавіўся Джузэпэ Вэрдзі кінематографу.

Душа зрабіла гэтыя карціны італьянскімі. Не ў меншай ступені душа адбівалася ў італьянскіх трымценніках — gialli, што часта таксама здымаліся на ангельскай мове. Барочная экзальтацыя гвалту, ужо зададзеная ў спагецці-вестэрнах, дасягнула ў gialli свайго піку. І яна заканамерна ўмагчымілася ў краіне з цвёрдай каталіцкай традыцыяй, дзе ствараў афектаваныя скульптуры Ларэнца Берніні.

Менавіта душа ажыўляе карціну, надае фільмам пазнавальную аўру. Гэтая душа ўвасабляецца кінамовай; і калі запатрабуецца — душа скарыстаецца той ці іншай гутарковаю мовай.

Стужкі Андрэя Кудзіненкі, скрытыкаваныя вастанам за недастаткова цвёрдую моўную дысцыпліну, маюць сваю душу. Гэтая душа — беларуская. І гутарка ў фільме гучыць дакладна на той мове, якая адпавядае кінавобразу і запатрабаванай сітуацыі: калі беларуская мова, калі — польская, а калі — руская. І хаця маюцца дробныя шурпатасці з акцэнтамі, беларускай мовы ў фільмах роўна столькі, колькі і неабходна — каб атрымаць рэжымныя абвінавачанні ў нацыяналізме і «скрыўленні сапраўднае праўды».

Іншае пытанне, а ў якіх творах і калі беларускай мовы можа быць больш?

Зразумела, калі фільм мае быць шчырым люстэркам сучаснае вуліцы, то цяжка абмінуць паноўную там — не тытульную — мову. А вось гістарычнае кіно — проста патрабуе мову беларускую. Кінафантастыцы таксама добра б на ёй загаманіць — тым больш, што можна пагуляць з новымі і забытымі словамі.

Увогуле, жанравае кіно, якое само па сабе ўмоўнасць, дазваляе скарыстоўваць беларускую мову напоўніцу і без усялякіх папрокаў за «няпраўду». Для жанру важней не адпаведнасць побыту, а правілы апавядання і самакаштоўная рыторыка вобразаў. Беларускамоўныя баевікі, касцюмныя меладрамы і фільмы жахаў чакаюць сваёй агучкі.

І тут мы падыходзім да зеўры, якая зусім нецярпімая.

Для беларускай культуры, грамады — і дзяржаўнасці — куды страшней не тое, што нешматлікія беларускія фільмы яшчэ не загучалі на роднай мове ў поўны голас, а тое, што замежныя — пераважна, галівудскія — стужкі пакуль не гавораць на мове Быкава і Купалы.

Няма дубляжу камедый і бомба-фільмаў, героі эратычных трылераў крычаць з пастаўленымі МХАТаўскімі інтанацыямі, а персанажы Дыснэя і студыі «Піксар» нічога не ведаюць пра глухое «г» і зацвярдзелае «ч».

У Беларусі затаптаная эфірная прастора беларускае мовы. У краіне адсутнічаюць беларускамоўныя тэлеканалы, радыё ванітуе суседскім шансонам, а беларускія дзеці забылі мову — бо няма ўжо дзе і пачуць.

Гэта трэба будзе ў першую чаргу аднаўляць і гэта ствараць.

Але гэта можна ствараць ужо зараз. Хаця тэлеканалы і радыё — акупаваныя, сеціва — адкрытае. Адзін фільм, перакладзены на мову, для беларускае грамады важнейшы за тысячы семінараў, дзе «лідараў грамадзянскай супольнасці» вучаць «праяўляць лідарскія здольнасці» ў «арганізацыі семінараў».

Кожная даступная стужка з беларускім гучаннем, кожны кліп і кожная дакументальная замалёўка — гэта ажыўленне краіны і гэта цвік у труну дыктатуры.

Гэта рупар для кінадушы, якая яшчэ не загаманіла напоўніцу — але загамоніць. Дзеля гэтага яна мусіць кшталтавацца, адчуць сябе дый пабачыць іншых, добра навучыцца мастацкай мове, якая і фармуе голас, гатовы апрануць на сябе беларускае маўленне.

І душа мусіць дзякаваць Творцу, які даў ёй саму здольнасць да словаў.

КНІГАРНЯ

# СЦЕЖКАМІ ЗЭЛЬВЕНШЧЫНЫ

Міхась Акулка

**«Краязнаўчымі сцежкамі Зэльвеншчыны» — так называецца новая кніга беларускага пісьменніка, гісторыка і краязнаўцы са Слоніма Сяргея Чыгрына. Кніга днямі выйшла з друку ў мінскім выдавецтве «Кнігазбор».**

Такое паўнамаштабнае і дасканалае выданне пра Зэльвеншчыну з'явілася, бадай што, упершыню. Калі не лічыць кнігу «Память. Зэльвенскі раён» (Мн., 2003), матэрыялы навуковай гісторыка-краязнаўчай канферэнцыі «Славуты зэльвенскі край» (Ліда, 2004), выданне «Тайны Сынковичского храма» (Мн., 2012) Васіля Афанасіка і кнігу «Дзярэчынскі дыярыюш» (Мн., 1999) Міхася Скоблы. Вось бадай і ўсё, што напісана і выдадзена пра гісторыю Зэльвеншчыны.

Пагадзіцеся, гэта даволі мала, тым больш, што зэльвенскі край мае даволі багатую гісторыю, тут нарадзілася шмат знакамітых і таленавітых людзей, раён можа ганарыцца сваімі архітэктурнымі помнікамі і помнікамі прыроды. Гэты прабел выраўшыў запоўніць Сяргей Чыгрын, сабраўшы пад адну вокладку свае артыкулы, прысвечаныя Зэльвеншчыне, яе гісторыі, людзям і помнікам.

Кніга «Краязнаўчымі сцежкамі Зэльвеншчыны» распачынаецца гісторыяй Ганненскага кірмашу — аднаго з найбуйнейшых кірмашоў у Беларусі, які праводзіўся ў канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзяў у Зэльве. Далей аўтар краязнаўчымі сцежкамі вядзе чытачоў у вёску Дабрасельцы, дзе нарадзіўся прэзідэнт Беларускай Народнай Рэспублікі Васіль Захарка, потым — у Дзярэчын, дзе жыў цікавы чалавек, педагог, краязнавец Пятро Марціноўскі, дом якога ў вёсцы беларускія пісьменнікі называлі домам літаратараў. Аўтар распавядае і пра лёс генерала Ермалая Гампера, магіла якога знаходзіцца ў Дзярэчыне.

З Дзярэчына краязнаўчыя сцежкі кнігі Сяргея Чыгрына прывядуць у вёску Шуляці, дзе нарадзілася жонка беларускага паэта Адама Бабарэкі, у вёску Елка, дзе жыла шчырая паэтка і настаўніца Валянціна Ададурава, якая пры жыцці выдала толькі адну кніжку вершаў «Глыбінка», у вёску Галынка, дзе жыве майстар чорнадымленай керамікі Сяргей Хүдзяеў, у вёску Алексічы да старой гістарычнай каломны, у вёску Плецянічы, якую былы міністр гандлю БССР Мікалай Малочка перайменаваў у Чырвонае Сяло і г.д.

Цікава аўтар падае матэрыял пра зэльвенцаў, якіх лёс у розны час раскідаў па свеце. На Зэльвеншчыне нарадзіліся і жылі польская пісьменніца Марыя Радзевіч (1863–1944), гісторык Міхаіл Іоська (1931–1983), перакладчык і фальклярыст Марцін Цяплінскі (1810–1847), гісторык Міхась Гедройць, доктар філалогіі Яўген Смаршчок (1914–1984) і многія іншыя. Пра ўсіх іх згадвае ў сваёй кнізе аўтар.

У сваю кнігу Сяргей Чыгрын уключыў артыкулы і пра зэльвенскіх літаратараў Ларысу і Юрку Геніюшаў, Юрку Голуба, Міхася Скоблу, Уладзіміра Мазго, Генадзя Коўша. У кнізе чытачы прачытаюць і пра Юрыя Качука, які захапляецца беларускай кухняй, нават выдаў некалькі кніг беларускіх страў і г.д.




Кніга Сяргея Чыгрына «Краязнаўчымі сцежкамі Зэльвеншчыны» — новая старонка ў даследаванні багатай і непаўторнай гісторыі гэтага краю. Яна — запрашэнне чытачоў да роздуму аб гістарычным шляху Зэльвеншчыны, лёсе яе людзей і помнікаў.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 125

Падпісана да друку 01.02.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.